№ 15 (756) 18 красавіка 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я Б Е Л А Р У С К А Я Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў м… …ец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серад…



## «Адыграла ролю цвёрдасць Латушкі»

З вежы Нясвіжскага палаца знялі «цыбуліну». Старонка 11.



## Гудбай, Ленін!

Колькасць помнікаў правадыру пралетарыяту скарачаецца, але многія з іх не здаюцца. Старонка 6.

# Чарговы этап

«Я думаю, як жыць далей», — сказаў **Андрэй Саннікаў** на пытанне, ці застанецца ў палітыцы. **Старонка 3.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



У турмах застаюцца 13 палітвязняў

**Тэндэнцыі**

## Зняслаўлены гонар, або «Амкадор» патрабуе пакараць «Нашу Ніву»

Артыкул «Мільянер са скальпелем» пра сенатара Аляксандра Шакуціна: **нечаканы рэзананс**.

14 красавіка скончыўся тэрмін дзеяння папярэджання, вынесенага Міністэрствам інфармацыі Беларусі «Нашай Ніве» ў 2011 годзе. Нагадаем, тады над «Нашай Нівай» і «Народнай воляй» навісла пагроза закрыцця. На «рахунку» Рэдакцыі магло застацца толькі адно папярэджанне — за ненадрукаваны паштовы індэкс у ліпені 2011 года. У такім выпадку ў чыноўнікаў не было б фармальнага права ў любы дзень зноў запатрабаваць закрыцця газеты. І вось 11 красавіка Рэдакцыя газеты атрымлівае копію ліста з патрабаваннем вынесці газеце новае папярэджанне. Ад каго б вы думалі?

Рэдакцыя атрымала копію ліста за подпісам генеральнага дырэктара «Амкадора» Валерыя Кандратчыка. Ліст быў накіраваны 9 красавіка 2012 года міністру інфармацыі Алегу Праляскоўскаму. У ім «амкадоравец» «пераканаўча просіць» вынесці «Нашай Ніве» папярэджанне за распаўсюд няпэўнай інфармацыі і прыняць «іншыя меры, прадугледжаныя заканадаўствам».

**Працяг на старонцы 2.**

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Зняслаўлены гонар,

## або «Амкадор» патрабуе пакараць «Нашу Ніву»

Працяг са старонкі 1.

### Скальпель у руках мільянера

Што ж выклікала гнеўную рэакцыю дырэктара? Кандратчык абураецца матэрыялам «Мільянер са скальпелем», прысвечаным ягонаму шэфу — старшыні рады дырэктараў «Амкадора», сенатару Аляксандру Шакуціну. Артыкул быў надрукаваны ў №13 (754) «Нашай Нівы» за 4 красавіка 2012 года.

Спачатку нагадаем, што такое «няпэўная інфармацыя», згодна з законам «Аб СМІ». Гэта інфармацыйныя паведамленні ці матэрыялы, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. За публікацыю такіх звестак выданне можна атрымаць папярэджанне, калі такая непраўдзівая інфармацыя можа «прынесці шкоду дзяржаўным ці грамадскім інтарэсам» альбо «зневажаць гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю фізічных/юрыдычных асобаў».

«Амкадор» — прадпрыемства прыватнае. Да дзяржаўных інтарэсаў яно дачынення не мае, зрэшты, далёкае і ад грамадскіх інтарэсаў. Значыцца, інфармацыя ад «Нашай Нівы» зняславіла «гонар, годнасць і рэпутацыю» «Амкадора». У чым канкрэтна?

У лісце знаходзіцца ажно 7 прэтэнзій. У першай з іх «Амкадор» абвяргае, што ў 2009 годзе кампанія купіла завод пад Вільняй і сваю датычнасць да ўтворанага «Амкадор-Балцік». Што ж, слова самому Шакуціну: «У 2009 годзе мы набылі два заводы. Першым быў Пабяржскі завод сельгасмашынабудавання (Літва), цяпер гэта — прадпрыемства «Амкадор-Балтык». Яно знаходзіцца ў 20 км ад Вільні». Гэта ён сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту БелТА 29 кастрычніка 2009 года. Дык хто ж, калі не Шакуцін, тады набываў гаротны Пабяржскі завод?

Гонар і годнасць «Амкадора» «псуюць» таксама абдрукоўка ў назве прадпрыемства «Амкадор-Унімод» і той факт, што «Амкадор-Унікаб» аднесены да Мінска, а не Маладзечна.

Прадпрыемства заступілася і за непальца Упендра Махата, які быў названы ў матэрыяле найбуйнейшым акцыянерам канцэрна.

«У сапраўднасці спадар Махата не з'яўляецца акцыянерам ААТ «Амкадор», — нагадвае Валерый Кандратчык, але чамусьці не ўдакладняе, што ўсё той жа нешалец з'яўляецца старшынёй рады дырэктараў інвестыцыйнай кампаніі, якой належыць кантрольны пакет.



Аляксандр Шакуцін.

### Адкрытыя лічбы

Дырэктар «Амкадора» дэманструе цуды арыфметыкі. «У матэрыяле ўказана, што агульная колькасць супрацоўнікаў... складае больш за 5 тысяч чалавек, — скардзіцца Кандратчык. — Аднак па стане на 1 красавіка колькасць работнікаў... складае 6226 чалавек, што перавышае на 25% лічбу ў матэрыяле». Уключым звычайную логіку і веды пачатковай школы. Налічаныя 6226 чалавек — гэта больш ці менш за 5 тысяч чалавек? Дык у чым тады няпраўда «Нашай Нівы»? Ці хтосьці проста ставіць задачу дачапіцца?

Наступная прэтэнзія яшчэ больш красамоўная: «Інфармацыя пададзеная аднабакова». Паводле ўказа Лукашэнкі, «Амкадору» дазволілі за $1,5 мільёна набыць тры заводы. Валерый Кандратчык мяркуе, што замест таго, каб назваць гэтую суму «сімвалічнай», «Наша Ніва» мусіла адзначыць сацыяльную адказнасць «Амкадора». Аказваецца, кампанія мусіла інвеставаць у прадпрыемствы 22 мільярды рублёў за бліжэйшую пяцігодку, абавязалася захаваць колькасць работнікаў на набытых заводах і нават павялічыць аб'ёмы вытворчасці ад 2,5 да 5 разоў. Ды на здароўе — хай хоць у дзесяць разоў. Вось толькі чаму лічба ў $1,5 мільёна за тры заводы не можа называцца сімвалічнай? Гэта наша права як журналістаў — даваць ацэнкі.

Штоквартал Міністэрства фінансаў Беларусі друкуе справаздачы аб дзейнасці ўсіх адкрытых акцыянерных таварыстваў краіны. Тыя самыя, якія сведчаць, што «Амкадор» не выплачвае ні рубля дывідэндаў сваім акцыянерам. Згодна з дакументамі, за 2010 і 2011 год (тры кварталы) чысты прыбытак «Амкадора» склаў больш за $40 мільёнаў. А вось Валерый Кандратчык, не спасылаючыся на канкрэтныя дакументы, даводзіць, што ягоная кампанія зарабіла ўдвая менш.

### Пакрыўдзіўся Шакуцін ці Кандратчык?

Наступны «балючы пункт» — удзел Шакуціна ў фінансаванні сфальсіфікаванага, як выявілася, конкурсу «Еўрафэст». «Я папрасіў не без згоды і жадання Аляксандра Шакуціна, каб ён, міністр культуры і кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі арганізавалі годна гэты працэс і вызначылі тых, хто годна можа прадставіць нашу краіну на гэтым конкурсе, — абураўся Аляксандр Лукашэнка падчас нарады, прысвечанай «Еўрафэсту». — Наколькі я інфармаваны, Аляксандр Васільевіч Шакуцін дапамагаў, і фінансава ў тым ліку, арганізоўваць гэты конкурс».

У гэтым пытанні мы інфармаваныя не больш за кіраўніка дзяржавы — Белтэлерадыёкампанія не падавала фінансавыя справаздачы на конт арганізацыі «Еўрафэста». Аднак мы грунтаваліся на словах кіраўніка дзяржавы.

І апошняе — памылка з фотаздымкамі. На першай і пятай палосах газеты замест фота Шакуціна быў размешчаны дырэктар «Амкадора» Кандратчык. Прычына была ў тым, што мы купілі гэтае фота ў інфармацыйнага агенцтва БелТА, у якога сівы мужчына за трыбунай падпісаны менавіта як Шакуцін. У гэтай сітуацыі недакладнасць насамрэч была, мы даверыліся агенцтву. У наступным нумары газеты «Наша Ніва» надрукавала ўдакладненне. І тут цікава: ці «Амкадор» запатрабаваў даць папярэджанне таксама агенцтву БелТА, ці ягоны праведны гнеў распаўсюджваецца выключна на незалежную газету? І яшчэ цікава ведаць, чый менавіта гонар быў зганьбаваны гэтай блытанінай? Варыянты два. Альбо дырэктар Кандратчык пакрыўдзіўся, што яго светлы твар падпісалі імем Шакуціна. Альбо наадварот — сенатар Шакуцін вырашыў, што яго дзелавая рэпутацыя была непапраўна сапсаваная праз выяву Кандратчыка.

### «Пазітыўны матэрыял»

...Прадстаўніца ідэалагічнага аддзела «Амкадора» ў першы раз патэлефанавала ў Рэдакцыю літаральна праз гадзіну-дзве пасля з'яўлення нумара газеты ў продажы. Звярнуўшы ўвагу на недарэчны здымак, яна заўважыла, што прадпрыемства не трымае зла на «Нашу Ніву», тым больш што матэрыял, па яе словах, атрымаўся «пазітыўны».

Што ж здарылася за наступны тыдзень, што дырэктар Валерый Кандратчык напісаў на імя міністра Праляскоўскага ажно тры старонкі прэтэнзій?

Аляксандр Шакуцін адзначаў у ранейшых інтэрв'ю, што прадукцыя «Амкадора» мусіць быць адаптаваная да патрабаванняў Еўрасаюза, каб яе можна было экспартаваць у еўрапейскія краіны і атрымліваць ільготы ў рэалізацыі. Рэдакцыя мяркуе, што «гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю» прадпрыемства будзе псаваць не абдрукоўка ў назве завода «Унімод» і нават не зблытаны здымак Шакуціна. Перакананыя, што еўрапейскія інвестары і пакупнікі перадусім звернуць увагу на ўдзел «Амкадора» ў ціску на незалежную прэсу Беларусі. У цывілізаваных краінах так не прынята, спадар Кандратчык.

Той артыкул пра Шакуціна быў сапраўды пазітыўны. Некаторыя чытачы нават выказвалі прэтэнзіі: маўляў, вы падаеце гэта як гісторыю поспеху, а тут трэба інакш пісаць. Мы з такімі закідамі не згодны. Важна пісаць пра беларускі прыватны бізнэс — будучыню беларускай эканомікі, хоць гэта і цяжка рабіць, бо інфармацыя не ляжыць пад нагамі.

Абсурдна і падазрона, калі той бізнэс, на словах дэкларуючы сваю празрыстасць, пачынае чапляцца да публікацый пра яго. Мы ўспрымаем гэты «наезд» як чарговую палітычную замову.

**Ягор Марціновіч**

### Сцісла

**Лукашэнка патрабуе прадухіліць пратэсты на прадпрыемствах**

Аляксандр Лукашэнка патрабуе ад урада вырашэння пытанняў на праблемных прадпрыемствах, работнікаў якіх апазіцыя заклікае выходзіць на вуліцы. «Мы не павінны ператвараць прадпрыемствы ў аб'ект палітычнай барацьбы», — заявіў А. Лукашэнка ў аўторак, сустракаючыся з Міхаілам Мясніковічам.

**Банкі «шантажуюць»**

Лукашэнка выказаў незадаволенасць дзейнасцю некаторых банкаў. «Замежныя банкі, каб прыцягнуць туды нашы прадпрыемствы, пачынаюць іх [прадпрыемствы] залагоджваць, а часам пагражаць тым, што не атрымаюць крэдыт», — заявіў Лукашэнка на сустрэчы з Мясніковічам. «Ці задобрываюць: мы вам дамо крэдыт танней, але ўсе вашы разліковыя рахункі павінны быць у нашым банку», — дадаў ён. «Гэта недапушчальна, — сказаў Лукашэнка. — Таму запрасіце кіраўнікоў усіх гэтых банкаў, а ўсе яны з'яўляюцца беларускімі грамадзянамі, і папярэдзьце іх».

**Пенсіі ўсохлі на 1,5%**

Рэальны памер пенсій у сакавіку ў параўнанні з лютым паменшаў на 1,5%. Такія звесткі публікуе агенцтва БелаПАН са спасылкай на Белстат. Сярэдні памер пенсій склаў 1 млн 209 тыс. рублёў.

**Бацька Статкевіча: Мае нервы не вытрымліваюць**

«Мой сын ніякіх прашэнняў ніколі не падпіша, — перакананы Віктар Паўлавіч. — Мікола мне казаў, што не зробіць гэтага нават пад пагрозаю смерці, бо ён — ніякі не злачынец. І мне наказваў ні ў якім разе не прасіць за яго, калі раптам на мяне будуць ціснуць». Аднак, як прызнаецца 85-гадовы Статкевіч-старэйшы, была б яго воля, сёння ён пагадзіўся б, каб Мікола напісаў прашэнне: «Мае нервы ўжо не вытрымліваюць. Гэта ж сын! А я ці ўбачу ўжо яго... Але, канечне ж, ён мяне не паслухае», — цытуе яго газета «Intex-press».

**СГ**

### Два погляды

Фільм «Белсата» «Страх у краіне спакою» і фільм канала «Беларусь-1» «Метро» можна пабачыць на сайце nn.by.

### Самае чытанае на nn.by за 11—17 красавіка

1 Саннікаў на свабодзе + першае відэа

2 Саннікаў пісаў прашэнне аб памілаванні двойчы, Бандарэнку схілялі да вербоўкі цытатамі з Пуціна

3 Саннікаў: Мяне спрабавалі давесці да самагубства

4 Пад Мінскам прайшоў закрыты паказ жаночай бялізны — фоты + відэа

5 «Страх у краіне спакою» і «Метро» — фільмы

6 Бандарэнка: Я не пражыў і сотай часткі таго, што Саннікаў

7 У аўтобусе Паланга—Мінск знойдзеная магутная выбухоўка

8 Дзесяць самых частых памылак у беларускай мове

9 Сям'я Вячоркаў на развітанні з Арынай — фотафакт

10 Зняслаўлены гонар, або «Амкадор» патрабуе пакараць «Нашу Ніву»



### Шукаюць

**У Мінску знік хлопец**



Раніцай 28 сакавіка знік Віталь Савасценя, 1987 г. нар. Хлопец жыве на вул.Прытыцкага, 124. Ён меўся прыбыць у бальніцу на вуліцу Сямашкі на абследаванне. З таго часу пра яго нічога не вядома.

**Прыкметы:** рост каля 170 см, валасы цёмнарусыя, стрыжка кароткая. Быў апрануты ў цёмнасінія джынсы, чорную куртку, зімовыя чаравікі.

**Тэлефануйце:** (044) 565-93-63 (Аляксандр, брат) ці (025) 961-37-45.

«Я думаю, як жыць далей», — сказаў **Андрэй Саннікаў** на пытанне наконт таго, ці застанецца ў палітыцы.

# Чарговы этап



Андрэй Саннікаў і Ірына Халіп сустрэліся праз паўтара года.

Прайшла субота, прайшла нядзеля, панядзелак, а афіцыйнае агенцтва БелТА ні словам не паведаміла пра памілаванне экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і ягонага паплечніка Зміцера Бандарэнкі. Ці трэба больш яскравы знак, што гэтае вызваленне было разлічана на замежную, а не на беларускую аўдыторыю?

## Доўгае чаканне

Саннікаў на свабодзе! У суботу ўвечары, калі праваслаўныя бацюшкі рыхтаваліся да ўсяночнай, гэтая вестка разляцелася па сайтах. Вызвалення чакалі даўно, але калі яно здарыцца, ведала толькі вузкае кола людзей у атачэнні Аляксандра Лукашэнкі. Гэта ён вырашае, ці памілаваць сваіх палітычных праціўнікаў.

Родныя спадзяваліся на вызваленне мінулай восенню, калі лукашэнкаўцы вялі таемныя размовы з міністрам замежных справаў Балгарыі, юным Мікалаем Младзенавым. Ізноў спадзяваліся ў студзені, калі стала вядома, што Андрэй Саннікаў урэшце напісаў прашэнне аб памілаванні, якое з яго так выбівалі. «Пазітыўныя перамены» еўрапейскім дыпламатам абяцалі ў сакавіку. Але замест указа выйшла ўказанне: праверыць, ці добраахвотна пісаў сваё прашэнне вязень.

Слёзы не сыходзілі з выплаканых вачэй Ірыны Халіп. Гэта ж яна расказала пра пакуты, якія перажыў яе муж у турме. Цяпер, выходзіць, што за выкрыццё ён жа плаціць дадатковымі днямі расстання.

## «Да апошняга не верыў»

«Я да апошняга не верыў, што мяне вызваляць. Мяне столькі разоў этапавалі з адной турмы ў другую, што я думаў, што гэта чарговы этап. Цяпер трохі ашаломлены, трэба прыйсці ў сябе. Хачу перадаць усім словы падзякі за падтрымку і салідарнасць. Дзякуй вам вялікі! Калі б не вы, я не быў бы сёння на волі. Бо рабілася ўсё, каб я наогул не выйшаў з турмы», — сказаў Андрэй Саннікаў у першай размове з журналістамі ў суботу.

Прыкладна а 17.30 яго выклікалі ў адміністрацыю калоніі «Віцьба-3» і сказалі збіраць рэчы. Вывезлі на чыгуначны вакзал. Толькі адтуль ён змог патэлефанаваць жонцы і адвакату. На вакзал мігам прыляцеў былы палітвязень, а перад тым віцебскі міліцыянт Сяргей Парсюкевіч. У яго на кватэры Саннікаў і чакаў прыезду паплечнікаў з Мінска.

У сталіцу палітыка прывезлі ягоны былы прэс-сакратар Алесь Атрошчанкаў з бацькам. У сталіцы Саннікава чакалі жонка Ірына, сын Данік і мама Ала. Ірына не магла паехаць мужу насустрач. Яна не мае права выходзіць з дому пасля 22-й вечара. Яе тэрмін яшчэ працягваецца.

## «Наш прэзідэнт»

А 2.05 Саннікаў прыбыў на мінскі вакзал. Там сустрэць яго сабралася каля 80 чалавек. Былі воплескі, скандаванне «Жыве Беларусь!» і «Наш прэзідэнт», бел-чырвона-белыя букеты і поціскі рук.

Спатканне было вельмі кароткім. На пытанні Саннікаў адказваць адмовіўся. У тым ліку і на пытанне карэспандэнта «НН», ці сапраўды яму прапаноўвалі выехаць з Беларусі. «Мая сям'я па-ранейшаму ў закладніках», — нагадаў Саннікаў. Адзінае, што ён удакладніў, — што напісаў прашэнне аб памілаванні 20 лістапада, а не пры канцы снежня, як паведамлялі лукашэнкаўцы.

## Кандыдаты ў турму

Саннікава арыштавалі разам з іншымі праціўнікамі Лукашэнкі 19 снежня 2010 года. У турме ён, выходзіць, правёў год і 5 месяцаў. Яго не раз этапавалі з калоніі ў калонію, каб зламіць волю да супраціву.

Са слоў Саннікава, яго катавалі і ў турме КДБ падчас следства, і ў калоніі падчас адседкі. Пасля вызвалення ён паўтарыў гэтае цяжкае абвінавачванне на адрас лукашэнкаўцаў. «Мая адседка скончылася ў верасні», — сказаў ён са скрухай, намякаючы, што тая было пекла.

## Не маю права расказаць

«Мяне спрабавалі давесці да самагубства», — растлумачыў ён у сваім першым інтэрв'ю. Ён даў яго ў нядзелю сайту charter97.org, які сам у свой час заснаваў.

«У дачыненні да ўсіх сённяшніх палітвязняў былі зняты ўсе абмежаванні на *беспредел*, — кажа Саннікаў. — Здзекі, катаванні — не з мэтай дамагчыся нейкай просьбы, прызнання віны. Усё нашмат страшней: знішчыць фізічна, знішчыць маральна. Уся гэтая практыка абавязкова будзе асуджана», — верыць ён.

Саннікаў працягваў: «Я не маю права сёння ў падрабязнасцях расказаць, што са мной адбывалася, бо мая сям'я, калегі, аднадумцы сёння застаюцца закладнікамі. Я па сабе ведаю, як любое неасцярожнае слова можа быць выкарыстана супраць іх. Магу толькі сказаць, што, на мой погляд, была мэта знішчыць мяне фізічна, пажадана давесці да самагубства, штурхнуўшы да бестэрміновай галадоўкі. Зрабіць так, каб фізічную ліквідацыю можна было спісаць на добраахвотнае рашэнне сысці з жыцця. Я баюся, што тое самае адбываецца з Сяргеем Каваленкам і іншымі палітвязнямі».

Ён параўнаў метады лукашэнкаўскіх спецслужбаў са сталінскімі.

У сваім вызваленні ён бачыць «уплыў мер, прынятых Еўрасаюзам». «Дзякуючы салідарнасці беларусаў, сем'яў палітвязняў, фактычна ўсёй краіны, у рашэннях міжнародных структур стала з'яўляцца выразная і прынцыповая палітыка ў дачыненні да Беларусі».

## І сотай часткі

У нядзелю ўранку стала вядома пра вызваленне Зміцера Бандарэнкі, які таксама раней напісаў прашэнне аб памілаванні.

**Палітвязні**

Чаму да палітвязняў прыкута ўвага ўсёй думаючай часткі грамадства? Бо палітвязні — гэта тэст: ці маюць грамадзяне права на нязгоду, на пратэст, ці не? Ці ў краіне абсалютная дыктатура — ці гэта рэжым моцнай рукі, які дазваляе ўсё ж нейкую ўнутраную дынаміку.

Былы спецназавец, а пасля вопытны журналіст, ён і ў турме не страціў пачуцця гумару.

На мінскім аўтавакзале «Усходні», куды ён прыбыў з Магілёва, ён расказаў, што яго спрабавалі завербаваць яшчэ ў турме КДБ. КДБісты патрабавалі ад яго ціхага кантролю над сайтам «Хартыя'97», а таксамы адмовы ад рэдагавання каментароў на сайце. «Такім чынам, я пацярпеў за цэнзуру», — пажартаваў ён. Бандарэнка заявіў, што не адрачэцца сваёй папярэдняй дзейнасці. «Буду працягваць, каб краіна стала свабоднай».

Пра вызваленне Саннікава ён пачуў а 20-й гадзіне ў суботу з радыё «Свабода». «Першая мая думка была: а мне прыйдзецца чакаць два тыдні да вяртання паслоў». Але наранiцу прыйшоў намеснік начальніка калоніі і загадаў збірацца з рэчамі. Бандарэнка перапытаў, яго вызваляюць ці пераводзяць на этап. «У такі дзень ніхто не стаў бы вас падманваць», — адказаў турэмшчык.

Зміцер Бандарэнка двойчы падкрэсліў, што не перажыў за кратамі і сотай часткі таго, што вытрымаў Андрэй Саннікаў. Ён адзначыў: калі б ведаў, што Саннікаў напісаў прашэнне аб памілаванні ў лістападзе, і сваё прашэнне напісаў бы раней.

Бандарэнка нагадаў пра калег па няволі: «Многіх з іх сёння, магчыма, проста «ламаюць».

## Думаю, як жыць далей

На прэс-канферэнцыі ў аўторак Саннікаў быў па-ранейшаму стрыманы. Ён расказаў, што пісаў прашэнне двойчы і прызнаўся, што думае, «як жыць далей».

Прэс-канферэнцыя прайшла на сядзібе прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці.

«Я напісаў, што раскайваюся, — сказаў Саннікаў. — Зрабіў гэта асэнсавана і каментаваць больш не буду. Віны я не прызнаў, хаця быў ціск». Саннікаў кажа, што, падпісаўшы, думаў спыніць правакацыі ў далейшым, але хутка зразумеў, што справа не ў памілаванні.

Ізаляцыя працягвалася і пасля напісання прашэння, кажа Саннікаў. «Псіхалагічна гэта дзейнічала моцна». У снежні «мяне падымалі, як кажуць на зоне, у атрад. А затым ізноў вярнулі ў адзіночку».

У Наваполацку ў калоніі ў Саннікава была магчымасць кантактаваць з асуджанымі. А вось у «Віцьбе-3», кажа Саннікаў, асуджаным забаранялі з ім размаўляць. Нават вітацца нельга было кіўком галавы. Хто рабіў гэта, «пераязджаў» у іншыя калоніі.

У снежні Саннікаў пачуў па радыё прэс-канферэнцыю Лукашэнкі, у тым ліку і наконт прашэнняў. Але пра сваё нічога не пачуў. І паўторна напісаў прашэнне. Пасля гэтага пачаліся пэўныя паслабленні.

Саннікаў пакуль не ведае, ці застанецца ў палітыцы: «Я думаю, як жыць далей, трэба паспрабаваць вярнуць жыццё». Кажа, зашмат было выпрабаванняў для сям'і.

Судзімасць на Саннікаву застаецца на 8 гадоў.

## Што рабіць?

Ці могуць наступныя выбары прэзідэнта прайсці без альтэрнатывы, сыходзячы з падзей на Плошчы? Ці не пабаяцца людзі вылучацца ў кандыдаты? «У нас безальтэрнатыўныя выбары, пакуль Ярмошына будзе кіраваць ЦВК», — сказаў Саннікаў. Ён лічыць, што парламенцкія выбары трэба байкатаваць.

## Ніякай законнасці

«Ніякай законнасці не было, — расказвае пра свой турэмны вопыт Бандарэнка, — былі пагрозы згвалтавання, калецтва. Паказвалі сюжэты па БТ, як Даніка хочуць забраць у бабулі». «Тое, што было з Андрэем — гэта быў акт вялікай драмы».

Бандарэнка расказвае: калі ў турме КДБ яго спрабавалі завербаваць, ён заявіў, што хутчэй скончыць жыццё самагубствам, але не здасца. Бандарэнка расказаў, што падчас вярбоўкі КДБіст спрабаваў падмацоўваць свае аргументы цытатамі з Суворава, Калчака, Пуціна. Наіўны — калі ён збіраўся вербаваць беларускага патрыёта, жартуе хартыец, то павінен быў нарыхтаваць цытаты з беларускіх дзеячоў, а не з расіян.

«Беларусь сёння пакрытая сеткай канцлагераў і турмаў. Гэта дзікае відовішча для XXI стагоддзя. Тысячы людзей халодных і галодных. Калі ў я быў у медчастцы, за гэты час памерла 12 чалавек, асабіста знаёмых мне», — расказвае ён.

На прэс-канферэнцыі інкогніта прысутнічалі і карэспандэнты АНТ. Незалежныя журналісты пазналі іх і папрасілі Бандарэнку сказаць «пару словаў у мікрафон». «Вы лепшыя, чым БТ. Успрыміце мае словы як зваротную сувязь ад зэкаў, — зрэагаваў Бандарэнка. — Але часам крыўдна вас глядзець. Палохаць вас не буду. Але ад турмы і сумы...», — нагадаў Бандарэнка журналістам АНТ старую прымаўку.

**Мікола Бугай**

**Інтэрпрэтацыі**

## Чаму ўсё-ткі вызвалілі?

Лукашэнка вырашае прымітыўную тактычную задачу: не стварыць негатыўнага піяру, каб не сарваць і не сапсаваць чэмпіянат па хакеі, і ў той жа час выпусціць мінімум людзей з турмаў, каб унутры краіны не адчулі лібералізацыі. Чэмпіянат патрэбны для самарэкламы перад выбарамі на пяты тэрмін. Эканамічнае адставанне Беларусі як ад Польшчы, так і ад Расіі працягвае нарастаць, вось і трэба людзям нейкі пазітыў.

Дыпламатычны ціск Еўрасаюза дае свой вынік: ён стрымлівае ўлады Беларусі.

# Лукашэнка перанёс сваё пасланне народу і парламенту

з 19 красавіка **на няпэўны тэрмін.**



Лукашэнка загадаў унесці папулісцкія праўкі ў частку аб прыватызацыі і змякчыць замежнапалітычны курс.

Як паведамляе агенцтва БелТА са спасылкай на кіраўніка яго прэс-службы Паўла Лёгкага, Лукашэнка адхіліў праект паслання, падрыхтаваны дзяржаўнымі органамі, і адправіў яго на дапрацоўку.

Лукашэнка даручыў перапрацаваць палажэнні, якія тычацца пытанняў прыватызацыі, а таксама замежнапалітычнага курса краіны.

Лукашэнка даручыў улічыць у праекце недапушчальнасць залішне ліберальнага падыходу пры продажы дзяржаўнай уласнасці і катэгарычную непрымальнасць «беспадстаўнай прыватызацыі».

У замежнапалітычным раздзеле Лукашэнка выказаўся супраць залішне жорсткіх мер рэагавання на праблемы, якія ўзнікаюць ва ўзаемаадносінах Беларусі са сваімі партнёрамі.

**Мікола Бугай**




# У аўтобусе Паланга—Мінск знайшлі магутную выбухоўку

**Няясна**, калі яна там з'явілася.

Малады чалавек прыйшоў забраць торбу на вакзал у Вільні. Аднак калі кіроўца выцягваў яе з багажнага аддзялення, ён з цікавасці зазірнуў у яе. І пабачыў там процітанкавую міну. Хлопец скмеціў дзеянне вадзіцеля ды даў драпака.

На аўтавакзал прыбыло спецпадраздзяленне Aras — аналаг беларускага «Алмаза». Сапёры дасталі з міны ўзрывальнік.

Цяпер паліцыя Вільні шукае грамадзяніна Беларусі прыкладна 25 гадоў, які падазраецца ў захоўванні выбухоўкі. Да канца не ясна, калі міну паклалі ў аўтобус — яшчэ ў Беларусі ці на адным з прыпынкаў у Літве. Пакуль факты схіляюцца ў бок таго, што сумка трапіла ў багажнае аддзяленне на тэрыторыі Літвы.

Аўтобус быў літоўскі. Ён выконваў рэйс маршрутам Паланга—Мінск.

**ЯМ**

## Беларусы купляюць усё больш «Самсунгаў» замест «Гарызонтаў»

Затое аддаюць перавагу айчынным пральным парашкам і халадзільнікам.

Белстат апублікаваў справаздачу аб рознічным гандлі за студзень-сакавік 2012 года. Цікавасць выклікаюць перавагі беларусаў па кожным з відаў тавараў — больш прадаецца айчыннага ці замежнага?

Што да прадуктаў, то ў большасці катэгорый (мяса, сыры, масла, яйкі, гародніна, сокі, безалкагольныя напоі) доля беларускага тавару складае 80–99% рынку. Выключэнне — садавіна (13% продажаў), рыба (54%) і крупы (49%).

А вось у прамтаварах перавага «свайго» не такая заўважная. Айчынныя вопратка і абутак займаюць 65–70% рынку, трыкатаж — 81%, а шкарпэткі — 91%.

Значнага поспеху дасягнулі айчынныя мыючыя сродкі. Год таму яны мелі 34% продажаў на рынку, а цяпер, дзякуючы «Мары», здабылі ўжо 52%.

Патроху расце папулярнасць і айчынных касметычных тавараў (з 25% да 30%).

Звернемся і да тэхнікі. Дэвальвацыя рубля змусіла нават багацейшых беларусаў адмовіцца ад імпартных халадзільнікаў (79% рынку замест леташніх 69% займаюць цяпер «Атланты») і пральных машын (69% замест 39%).

Затое «Гарызонты» і «Віцязі» прайграюць «Самсунгам» і «Філіпсам». Год таму доля айчынных тэлевізараў складала 57%, а цяпер усяго 41%.

**Ягор Марціновіч**

## Найбяднейшы з суседзяў

**У міністра эканомікі** Снапкова заробак — $750 у месяц.

Гэта ў дзесяць разоў меней, чым заробкі ў міністраў суседніх дзяржаў.

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў зарабляе $750 у месяц. Пра гэта ён паведаміў 13 красавіка падчас прамой лініі, арганізаванай газетай «Рэспубліка». Адказваючы на пытанне сайта Onliner.by, міністр эканомікі адзначыў, што яго заробак «не моцна адрозніваецца ад заробку большасці беларусаў» (праўда, як высветлілася, зарабляе ён каля 6 мільёнаў рублёў). Прычым Снапкоў выходзіць на працу яшчэ і ў суботу.



**Мікалай Снапкоў пераехаў у Мінск з Магілёва.**

**АГ**

**А што ў суседзяў?**

Зрабіцца міністрам у **Расіі** — гэта як злавіць залатую рыбку ці атрымаць у карыстанне залатую жылу. Заробак міністра ў Расіі ў 14 разоў перавышае сярэдні даход па краіне (у выпадку Снапкоў/народ розніца крыху большая, чым два разы).

Заробак прэм'ер-міністра **Літвы** Андруса Кубілюса ў канцы мінулага года складаў 11 125 літаў (4 278 даляраў), заробак міністра замежных спраў Ажубаліса складае 3 600 даляраў у месяц. Пры гэтым сярэдні літовец зарабляе больш за 800 даляраў.

У **Латвіі** кіраўнік бюро прэм'ер-міністра Валдзіса Дамброўскіса мае заробак каля 2 400 еўра.

Сярэдні даход міністра фінансаў **Украіны** ў 2011 г. Фёдара Ярашэнкі за месяц склаў 2 294 даляры. Праўда, існуе меркаванне, што ў дыктатарскіх краінах розніца ў заробках проста лепей прыхавана льготамі і доступам да рэсурсаў.

## Льготнікі запазычыліся «Беларусбанку» па крэдытах $2,6 мільярда

Гэта **ні многа ні мала** —21 трыльён рублёў.

Справаздачу аб выніках дзейнасці за першы квартал 2012 года размясціў на сваім сайце «Беларусбанк». Як адзначаецца ў прэс-рэлізе, запазычанасць фізічных асоб па льготных крэдытах па стане на 1 красавіка 2012 года дасягнула амаль 21 трыльён рублёў. У пераліку па цяперашнім курсе гэта эквівалентна $2,6 мільярда.

Даўгі беларусаў растуць. Напрыклад, па дадзеных на 1 лістапада 2011 года запазычанасць па льготных крэдытах складала 18 трыльёнаў рублёў

**ЯМ; onliner.by**

# Паўночнакарэйская ракета развалілася праз хвіліну пасля запуску

Незвычайнасць была ў тым, што **Пхеньян прызнаў няўдачу.**

Паўночнакарэйская ракета, на якой Пхеньян абяцаў даставіць на арбіту штучны спадарожнік Зямлі, развалілася праз хвіліну пасля запуску. За пускам ракеты сачылі службы Японіі, ЗША і Паўднёвай Карэі. Японія была гатова збіць ракету, калі б яна скіравалася ў бок астравоў.



**Дынастычнай Карэяй кіруе Кім Чон Ын — унук Кім Ір Сэна.**

Паўночная Карэя распрацавала атамную бомбу і актыўна спрабуе стварыць міжкантынентальныя балістычныя ракеты.

Краінай кіруе дынастыя Кімаў, якія ўстанавілі вычварную дыктатуру. Спачатку яна грунтавалася на камуністычнай дэмагогіі, у апошнія гады — на ідэі «абароны незалежнасці» краіны.

Запуск ракеты павінен быў стаць кульмінацыяй святкавання 100-годдзя з дня нараджэння Кім Ір Сэна, заснавальніка дынастыі.

Незвычайнасць моманту была ў тым, што Пхеньян прызнаў няўдачу. Тры ранейшыя аналагічныя пускі таксама былі няўдалымі, але ў двух з трох выпадкаў улады пры Кім Чэн Іру заяўлялі, што спадарожнікі выведзены на арбіту і транслююць «рэвалюцыйныя гімны», што гучаць пасля па праўднай радыёсетцы.

На пабудову ракеты былі вытрачаны сотні мільёнаў даляраў. Гэта прытым, што ў Паўночнай Карэі мільёны людзей недаядаюць, а краіна ўвесь час прымае харчовую дапамогу ад Паўднёвай Карэі і ЗША. У выніку пастаяннага недаядання зменшыўся нават сярэдні рост карэйцаў. Нядаўна стала вядома, што ўлады Карэі знізілі мінімальны рост, пры якім бяруць на вайсковую службу, да 145 сантыметраў.

Раней Карэя вырабляла найпрацейшыя ракеты, скапіяваныя з савецкіх узораў 1960-х гадоў. Цяпер Пхеньян замахнуўся на складаную, трохступеневую ракету. Такая моцна зацікавіла б таксама Іран і Пакістан, якім раней таемна прадавала вайсковыя тэхналогіі Паўночная Карэя. Аднак не ўдалося. 29-гадовы Кім Чон Ын не згадаў пра падзенне ракеты ў юбілейным выступе на 100-годдзе дзеда. Сваю прамову, дарэчы, ён зачытаў па паперцы.

**Сяргей Гезгала**

**Чаму маленькі Ізраіль здольны разбамбіць атамныя аб'екты вялізнага Ірана? Аналіз Рыгора Астапені чытайце на nn.by.**

# Беларусаў пачастуюць мармуровым мясам

Вось толькі каштаваць кілаграм такой ялавічыны можа $200 ці нават $500.

Атрымаў заробак — набыў два кілаграмы мяса. Аляксандр Лукашэнка паабяцаў накарміць беларусаў далікатэсным відам ялавічыны, так званым мармуровым мясам. Цяпер яно каштуе каля $200, але купіць яго ў крамах немагчыма. «Мармуроваму мясу быць, — паабяцаў кіраўнік дзяржавы. — Мы наладзім асобную перапрацоўку, разам знойдзем рынкі рэалізацыі і будзем прадаваць. Сёння агромністы попыт на такую прадукцыю ў Расіі. Таму займацца гэтым будзем. Трэба сваіх людзей прывучаць да нармальнага мяса і лішкі рэалізоўваць у Маскву».

### Каровы, як зубры

Што ж гэта за «нармальнае» мяса, якое беларусы ніколі не каштавалі? Яго радзімай лічыцца Японія. Яно атрымала сваю назву праз раўнамерныя тлушчавыя праслойкі ў мясе спецыяльных парод бычкоў. На зрэзе яны нагадваюць выяву мармуру. Дарослыя каровы мясных парод — брытанскія герафорды і абердын-ангусы, а таксама французскія лімузіны — важаць да 800 кілаграмаў! На выгляд яны нагадваюць нават не карову, а невялікае зубраня.

Японскія каровы сядзяць на спецыяльнай дыеце, каб у мясе выйшла як мага меней тлушчу, прычым яе трэба перыядычна мяняць.

Абурэнне экалагічных арганізацый выклікаюць апошнія дні жыцця бычкоў перад забойствам. Каб «даць» узорнае мяса, яны не павінны рухацца, але не мусяць і ляжаць. Таму іх проста падвешваюць.

### Ад Віцебска да Палесся

Беларускае мяса яўна не будзе такім паплатным, бо і ўмовы гадавання не такія строгія. Летам каровы месяцамі пасвяцца на беларускіх лугах, набіраючы вагу, а ўзімку жуюць сена. Выдаткі невялікія — толькі на працу пастухоў.

З розным поспехам герафордаў гадуюць у дзясятках гаспадарак Беларусі. Ім патрэбная сакавітая трава, таму найлепшыя прыродныя ўмовы для гадавання — палескія абалоні. Прычым адна з гаспадарак, «Дубовы лог», працуе на мяжы з Чарнобыльскай зонай. А вось на поўначы Беларусі найбольшых поспехаў дасягнулі ў ЗАТ «Ліпаўцы» ў пасёлку Шапечына ў Віцебскім раёне. Яго дырэктар Фазулі Гасанаў яшчэ на пачатку 2000-х закупіў некалькі дзясяткаў жывёлаў з Расіі і Венгрыі. Цяпер статак герафордаў складае там больш за 800 галоваў і выйшаў на добрую рэнтабельнасць. Цяпер у «Ліпаўцы» возяць на экскурсіі кіраўнікоў суседніх гаспадарак.



Каровы-герафорды здалёк падобныя да маленькага зубраняці.



Мармуровае мяса — далікатэс ва ўсім свеце.

### Стэйкі за мільён

З мармуровага мяса найчасцей робяць мяккія сакавітыя стэйкі. Вось толькі цэны на іх у мінскіх рэстаранах кусаюцца — ад 300 тысяч да 1 мільёна рублёў. Прычым стэйкаў, зробленых з беларускага мармуровага мяса, не знайсці!

«Мы вымушаныя закупляць мяса ў Новай Зеландыі і Аўстраліі, — кажа повар аднаго з мінскіх рэстаранаў. — Па-першае, яно больш якаснае за айчынны аналаг. Па-другое, беларускае мармуровае мяса нам не прадаюць, хоць мы былі б згодныя. Рэч у тым, што мясаперапрацоўчыя заводы прадаюць усю прадукцыю ў маскоўскія рэстараны». То бок не лішкі пастаўляюць у Расію, як абяцаў Лукашэнка, а лішкі ад непрададзенага застаюцца ў Беларусі.

Старшыня беларускай Асацыяцыі рэстаратараў Арцём Шаркоў прызнаецца, што асобныя віды мяса рэстараны вымушаныя купляць за мяжой, хоць у цэлым выбар ялавічыны і свініны ў краіне вялікі. «Зайдзіце ў любую краму — вочы разбягаюцца», — кажа ён. Зрэшты, мармуровае мяса даступнае далёка не кожнаму ва ўсіх краінах свету.

**Ягор Марціновіч**

## Дроздава пратэстуе супраць будаўніцтва хімзавода

Небяспечнае прадпрыемства мае адкрыцца за некалькі кіламетраў ад Мінска.

Жыхары вёсак Дроздава і Малінаўка Бараўлянскага сельсавета б'юць трывогу. На ўчастку паміж іх населенымі пунктамі, за пару кіламетраў ад Мінска, кампанія СААТ «М-Стандарт» мае пабудаваць завод па вытворчасці хімічных сродкаў. Жыхары элітных катэджавых пасёлкаў, вядома ж, супраць. Яны куплялі свае ўчасткі за $50—70 тысяч для таго, каб жыць у чыстым месцы, без забруджаных грунтовых водаў.

Гісторыя пачалася яшчэ ў сакавіку 2010 года, калі Мінаблвыканкам заключыў інвестыцыйную дамову з СААТ «М-Стандарт». Згодна з ёй, кампанія атрымала 5,55 га зямлі, на якіх у жніўні 2012 года мае адкрыцца вытворчасць. На заводзе будуць выпускаць ахаладжальную вадкасць для дызельных аўтамабіляў і спецыяльны рэагент. Агульны аб'ём вытворчасці на першым этапе складзе прыблізна па 4 тысячы тон першага і другога прадукту. У атмасферу пры гэтым будзе трапляць 2,8 тоны шкодных выкідаў штогод.

Драздоўцаў такі варыянт не задавальняе. Яны адзначаюць, што, згодна з планам развіцця прыгараднай зоны Мінска, будаўніцтва хімічных прадпрыемстваў у гэтым месцы ў прынцыпе забаронена. Але працы ўсё адно праводзяцца. «На працягу 2011—2012 гадоў засвоена 27,8 мільярда рублёў, створана 31 працоўнае месца», — гаворыцца ў афіцыйным адказе драздоўцам, падпісаным намеснікам старшыні аблвыканкама Аляксандрам Ермаком.

Чыноўнік даводзіць, што выконваюцца ўсе патрэбныя нормы: дазвол ад абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя атрыманы, санітарнаахоўная зона складае не 50 метраў, як патрабуе заканадаўства, а нават 100 метраў.

Вось толькі жыхары вёсак усё адно не разумеюць, навошта будаваць прадпрыемства менавіта каля Мінска. Калі прадаць зямлю завода пад катэджы, бюджэт можа атрымаць больш за $1 мільён. «У чым заключаецца інавацыйнасць вытворчасці, якой так хваліцца «М-Стандарт»? — абураецца прадстаўнік ініцыятыўнай групы Уладзімір, які расклейвае інфармацыю пра небяспечнае суседства. — Прывязуць хімікаты з-за мяжы, на адкрытай пляцоўцы будуць зліваць этыленгліколь з аўтацыстэрнаў у нейкія ёмістасці, а пасля ўручную разліваць у пластыкавыя кантэйнеры. Гэта фактычна прапісана ў праекце».

Каналізацыя ў праекце адсутнічае, атрымліваецца, што сцёкі пойдуць у глебу. Ёсць рызыка забруджвання грунтовых водаў. Гэта не адмаўляюць і ў Міністэрстве аховы прыроды, улічваючы магчымыя праблемы ў наступных пакаленняў драздоўцаў. «Пры распрацоўцы праекта ўлічана тэарэтычная верагоднасць забруджвання падземнага ваданоснага грунту, якая ў выпадку аварыйных сітуацый дасягне яго праз 50 гадоў», — адказала намесніца міністра ГалінаВаўчуга.

Прадстаўнікі кампаніі «М-Стандарт» не каментуюць сітуацыю, раячы звяртацца да чыноўнікаў.

**ЯМ**

## Першы рэйкавы аўтобус гатовы да выезду

У канцы красавіка ён з'явіцца на гомельскім кірунку.

Першы аднавагонны дызель-цягнік ДЦ-1 для Беларускай чыгункі прайшоў апошнія выпрабаванні. Ён будзе курсіраваць па маршрутах рэгіянальных ліній. Мяркуецца, што ўжо ў канцы красавіка ён пачне перавозіць пасажыраў у Гомельскай вобласці паміж Гомелем і Васілевічамі. Гэта каля 90 км адлегласці. У аўтобусе-цягніку 91 месца для сядзення, а ён сам можна набраць хуткасць 120 км/г.

Вытворчасць цягнікоў — сумесны праект «Белкамунмаша» і польскай кампаніі PESA Bydgoszcz SA. Да канца 2012 года плануецца вырабіць 6 такіх рэйкавых аўтобусаў.

**ЯМ**



## Сцісла

### «Белавію» могуць прадаць

Па словах міністра транспарту і камунікацыяў Івана Шчэрбы, гэта можа адбыцца ў наступным годзе. З рэспубліканскіх унітарных прадпрыемстваў не плануюць прыватызаваць толькі Беларускую чыгунку.

### Рэканструкцыю аэрапорта ўцанілі

Беларусь адмовілася ад супрацоўніцтва з Кітаем па рэканструкцыі аб'ектаў аэрапорта «Мінск-2». Раней меркавалася, што Кітай пазычыць на выкананне праекта $600 мільёнаў, аднак кітайцы паспрабавалі пераацаніць кошт працаў. У выніку беларусы вырашылі дзейнічаць самастойна. Мінімалістычная альтэрнатыўная канцэпцыя рэканструкцыі будзе каштаваць усяго $81 мільён.

### Лукашэнка абвясціў курс на меліярацыю

Меліярацыя з 2013 года стане асноўным кірункам бюджэтнага фінансавання. Праграмай прадугледжана рэканструкцыя і аднаўленне асушальных сістэм, а таксама асушэнне высокаўрадлівых зямель. «Мы ўвядзём у абарот велізарныя аб'ёмы зямель. А колькі атрымаем ад рэалізацыі прадукцыі!» — пахваліўся Лукашэнка.

### Сярэдняя зарплата ў Маскве складае $1600

У Мінску тым часам заробак складае прыкладна $430. Пры гэтым у структуры афіцыйных заробкаў масквічоў не ўлічваецца большая доля прыбыткаў ад бізнэсу, акцый і г.д.

**ЯМ**

Колькасць помнікаў правадыру пралетарыяту **скарачаецца**, але многія з іх не здаюцца.

# Гудбай, Ленін!


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Помнік Леніну ў Жодзіне падарвалі.

Пры канцы сакавіка ў Лынтупах, што на Пастаўшчыне, знеслі бюст Леніну, які стаяў каля прахадной мясцовага спіртзавода. Такім чынам, на адзін помнік правадыру пралетарыяту ў Беларусі стала меней. Аднак у гісторыі краіны былі і здараюцца выпадкі, калі помнікі Ільічу набываюць новае жыццё. Часам працэс рэінкарнацыі суправаджаецца кур'ёзнымі акалічнасцямі.

### Навагрудак

Помнік Леніну тут стаяў на пастаменце на аднайменнай плошчы да 1998-га. Горад рыхтавалі да 200-годдзя нараджэння Адама Міцкевіча, і помнік дэмантавалі. Казалі, што пад ім нібыта знайшлі кулямёт. Але скептыкі сцвярджалі, што такім чынам адцягвалі ўвагу ад знойдзеных на гэтым жа месцы парэштак расстраляных НКВД «ворагаў народа». Як бы там ні было, але Ленін з Навагрудка нікуды не дзеўся. Мясцовыя ўлады прапанавалі прадпрымальнікам ахвяраваць на бюст правадыру, і тыя не адмовіліся. Бронзавы Ленін неўзабаве з'явіўся каля плота вінзавода. У лістападзе 2009 яго аблілі зялёнай фарбай. Вінаватым прызналі актывіста Хрысціянскай дэмакратыі прадпрымальніка Юрыя Казака.

### Нясвіж

У пачатку 2000-х пры спробе пераносу быў разбураны гіпсавы Ленін. Ён стаяў насупраць галантарэйнай крамы «Надзея». Мясцовыя жартавалі, што зімой Ільіч асабліва сімвалічна выцягваў руку да крамы, нібы прасіў «Надзею Канстанцінаўну» прынесці яму цёплую шапку.

Леніна такі аднавілі. Пафарбавалі ў бронзу і паставілі ў іншым месцы.

### Карэліччына

У суседніх Карэлічах помніка Леніну няма. Затое бюстаў правадыру поўна ў навакольных вёсках. Да апошняга пра іх пільна клапаціліся мясцовыя сельсаветы. У вёсцы Краснае бюст з'явіўся ўжо па развале СССР — старшыня калгаса, мабыць, усё яшчэ не верыў у крах імперыі і перастрахаваўся. Гіпсавы Ільіч узіраўся ў вітрыну вясковай крамы да 2010-га, калі вёска канчаткова ператварылася ў аграгарадок. Бюст аднеслі на школьны двор, а потым спісалі.

### Ліда

У 2006-м тут спачатку дэмантавалі, а пасля аднавілі адзін з апошніх у горадзе помнікаў Леніну. Статуя стаяла перад будынкам былога Дома афіцэраў. Пасля рэканструкцыі плошчы яе перанеслі, як і ў Навагрудку, у іншае месца. Іншыя помнікі або зніклі, або былі разбураныя працаўнікамі камуністычнай спадчыны на пачатку незалежнасці.

### Жодзіна

У 2007 годзе невядомыя разбурылі адзін з двух помнікаў Леніну. Здарылася гэта перад днём горада. Паводле міліцыі, помнік бурылі «з дапамогай цяжкіх тупых прадметаў». Другі помнік, размешчаны каля Палаца культуры БелАЗа, знішчылі раней. Яго ўзарвалі з дапамогай выбухоўкі.

У суседнім Барысаве колькі год таму мясцовы жыхар пашкодзіў пастамент, на якім стаіць помнік Леніну. Мужчыну памясцілі ў псіхіятрычную лякарню. А помнік дагэтуль не адрамантавалі.

### Гомельшчына

У 2009 у гарадскім пасёлку Уваравічы бетонным помнікам Леніну зацікнула 21-гадовага хлопца. Ён ускараскаўся на статую і хацеў павіснуць на руцэ правадыра. Але помнік абрынуўся. Мясцовыя ўлады хацелі аднавіць «помнік-забойцу», але рэзананс у прэсе прымусіў іх адмовіцца ад гэтых планаў. Помнік канчаткова знеслі.

### Слонім

Усе шанцы вярнуцца на ранейшае месца мае адзін з чатырох помнікаў Леніну ў Слоніме. Як варыянт — размяшчэнне на новым месцы. Дэмантавалі яго ў сакавіку гэтага года. Месца, дзе ён стаяў, прадалі прыватніку. Рамантаваць і ўсталёўваць помнік ён будзе за свой кошт. Бізнэсоўца гэта не толькі не бянтэжыць — ён з настальгіяй згадвае часы свайго піянерства і зусім не супраць бачыць Леніна з вокнаў офіса.

**Сямён Печанко**

## 13-гадовая Ксенія з пасёлка Акцябрскі вярнулася са школы знакамітай

Сямікласніца з Гомельскай вобласці пяе рэп: **пабудуйце Лядовы палац!**

Славу ёй прынесла песня «Я з вёскі» (глядзі тэкст), у якой што ні радок — то лозунг. Пяе яна пра бясплатную медыцыну і добрае жыццё на вёсцы.

Відэаролік з песняй за лічаныя гадзіны разляцеўся па сайтах і сацсетках. Пакуль Ксюха сядзела на ўроках, яе праслухала ўся краіна.



Са школы дзяўчына вярнулася знакамітай. Аднак наўрад ці яна была падрыхтаваная да такой славы. Калі ў першым інтэрв'ю журналістам яна казала, што шчаслівая, то праз нейкі час тэлефон Ксеніі стаў недасягальным.

### Ксюшу — у прэзідэнты!

З прычыны дзясяткаў крытычных каментароў давялося «зачыніць» старонку «Вконтакте». Праўда, сярод іх былі і прапановы «рукі і сэрца» ды заклікі: «Ксеню ў прэзідэнты». А карыстальнік Цімур Сцепаненка нават стварыў фан-групу Ксеніі Дзягелькі.

Ролік на «Ютубе» за дзень набраў амаль 80 тысяч праглядаў.

### «Тэкст пісалі ўсім Домам творчасці»

Песня «Я з вёскі» была напісана для конкурсу «Я лідар», які пройдзе ў Мазыры 25 красавіка. Мастацкі кіраўнік Ксеніі Андрэй Павук верыць у перамогу сваёй падапечнай. Ён таксама ў шоку ад розгаласу, які выклікала песня ў інтэрнэце. Зрэшты, гэта добры піяр. «Мне здаецца, на выступ Ксені прыедзе шмат журналістаў, усе будуць браць у яе інтэрв'ю, атрымаецца такая незапланаваная прэс-канферэнцыя», — кажа Павук.

Тэкст пісалі ўсім калектывам Дома дзіцячай творчасці, дзе ён працэ. А «мінусоўкі» Андрэй спампаваў з інтэрнэту.

**Аксана Рудовіч**

### Тэкст песні (скарочана)

Привет, братья!
Здесь и сейчас Ксения Дегелько!
Я люблю вас! Я люблю Родину!
Я люблю Октябрьский!
Двигай телом! Е-е!
Я активистка БРПО*.

Что будет с Отчизной, мне не всё равно,
Во всем я готова страну поддержать
И землю родную трудом прославлять.

Я смелая, умелая, отличница по жизни
И всегда веду здоровый образ жизни.
Сигареты, алкоголь надо запретить,
Чтобы люди на земле могли спокойно жить.

Долой мини-юбки, короткие, узкие.
Теперь покупать будем всё белорусское!
Правильный город, счастливые лица,
Вот что я вижу, вот что мне снится.

Я из деревни, даешь процветание!
Даешь стабильность! Ё-ё!

Спорт мы поставим на первое место,
Активная жизнь — это всем интересно.
Постройте в Октябрьском Ледовый дворец
Для наших юных и храбрых сердец!

Я люблю вас! Е-е!

Скажем спасибо за хлеб на полях
И за хорошую жизнь в деревнях.
Мы преумножим старанья людей,
Жить станет легче и веселей!

Электорат, за меня голосуй!
Светлая правда в умах торжествуй.
Вместе мы сможем построить оплот,
Чтобы на славу трудился народ.

Даешь стабильность! Я из деревни.
Я люблю Родину. Я — лидер!
Двигай телом, даешь процветание!
Я люблю Октябрьский. Ё-ё! Я — лидер!

*БРПО — Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі

### З каментаў на nn.by

«Я асабіста ў 13 гадоў меў сваю грамадзянскую пазіцыю... А тут — адлюстраванне нашай нацыянальнай трагедыі».

«Дзяўчынка сімпатычная, словы песні — дурныя. Падрасце —-зразумее».

«Добра, калі гэта сцёб, але ж калі не.... то мяне жах бярэ! І дзе бацькі?»

«Бульба-трэш».

# Код Акрэсціна: турэмныя малюнкі

**Да 20 красавіка ў сядзібе БНФ (Чарнышэўскага, 3) у працяг грамадскага трыбунала «Катавальня Акрэсціна» працуе персанальная выстава палітарыштанта Юрася Навіцкага «Код Акрэсціна. Турэмныя малюнкі». На выставе прадстаўленыя каляровыя ілюстрацыі да дзённікаў аднаго з рэпрэсаваных. Палітарыштант пісаў і маляваў іх непасрэдна ў турэмнай камеры.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



## Удзельніца Плошчы знаходзіцца ў цяжкім стане

У Таццяны Грачанікавай — **рак**.

«Перад Вялікаднем быў крызіс. Але крыху палепшала, яе трымалі на анальгетыках. Пасля трох тыдняў у гастраэнтаралогіі ў такім жа стане і выпісалі. У пятніцу прывезлі яе дадому. На сёння яна вельмі слабая», — сказаў муж Таццяны Юрась.

Жанчыну затрымалі на Плошчы 19 снежня 2010-га. Суддзя адправіла яе на «15 сутак», у выніку Таццяна не трапіла на аперацыю своечасова.

Яшчэ ўвосень у Таццяны знайшлі пухліну. Дабраякасную. Дактары прызначылі аперацыю на 20 снежня. Жанчына звярталася да суддзі з просьбай замяніць арышт на штраф. Але яе праігнаравалі. У выніку, калі вызвалілася, ёй прыйшлося паўторна здаваць аналізы. Пакуль дайшла чарга, аналізы паказалі, што дабраякасная пухліна ператварылася ў злаякасную.

**СМ**

## Каваленка спыніў галадоўку

Ён дабіўся пераводу ў цывільны **шпіталь — псіхіятрычны**.

13 красавіка з Сяргеем пабачыўся яго бацька Аляксандр. З калоніі «Віцьба-3» палітвязня на мінулым тыдні перавезлі ў аддзяленне Дзяржаўнай службы судова-медыцынскай экспертызы Рэспубліканскага цэнтра псіхічнага здароўя ў мінскіх Навінках. Такое рашэнне прыняў Віцебскі абласны суд. Пакуль Каваленка не пройдзе камплекснага абследавання, не будзе разгледжана яго касацыйная скарга.

Па словах Аляксандра Каваленкі, сын пачаў піць сокі і есці сам. Яму больш не ставяць зонд і кропельніцы. Сяргей адзначыў падчас сустрэчы, што абыходжанне там лепшае, чым у калоніі.

Жонка палітвязня Алена мае наведаць мужа на гэтым тыдні. Раней паведамлялася, што ён важыць 45 кг пры росце 182 см. «Добра, канечне, што ёй пачаў есці. Але ўсё баюся за яго», — сказала Алена Каваленка, у мінулым — настаўніца хіміі, якая цяпер сядзіць з малымі.

Перад пераводам у Навінкі Сяргей знаходзіўся ў псіхіятрычным аддзяленні пры калоніі «Віцьба —3», дзе яго прымусова кармілі праз зонд і ставілі кропельніцы з вітамінамі. Выходзіць з галадоўкі добраахвотна актывіст КХП-БНФ адмаўляўся. Ён патрабаваў пераводу ў цывільны шпіталь.

Сяргея Каваленку асудзілі на два гады і адзін месяц за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання. Да гэтага прысуду ён быў пакараны трыма гадамі «хатняй хіміі» за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднім яліне 7 студзеня 2010 у Віцебску.

**Кастусь Матушыч**




**Жонка палітвязня Алена разам з 7-гадовым сынам Валікам пратэстуе супраць зняволення мужа. Віцебск, красавік 2012.**

**Грошы Каваленкам**

Пасля арышту Сяргея Каваленкі яго жонка засталася з 8-месячнай дачкой і 7-гадовым сынам на руках. Памагчы ім можна грашыма. Адрас для паштовых пераводаў: 210038, Віцебск, Маскоўскі праспект, д.47, к.1, кв.57. Каваленка Алена Юр'еўна.

## «Платформа»: Да Статкевіча падсадзілі ўдзельніка «эскадрона смерці»

Такія звесткі праваабарончая ініцыятыва атрымала з магілёўскай **турмы №4**.

Праваабарончая ініцыятыва «Платформа» паведамляе на сваім сайце, што ў камеру да экс-кандыдата Мікалая Статкевіча з Наваполацкай калоніі пераведзены былы намеснік камандзіра в/ч 3214 па фізічнай падрыхтоўцы Андрэй Васільеў, асуджаны ў 2002 годзе на тэрмін у 21 год. Паводле «Платформы», гэтую інфармацыю яны атрымалі ад крыніцы ў магілёўскай турме №4. Пацвердзіць гэтую інфармацыю немагчыма.

У апошняй серыі прапагандысцкага серыяла «Хросны бацька» (НТВ) Васільева называлі датычным да так званага «эскадрона смерці» — групы, якую звязвалі са знікненнямі людзей, у тым ліку апазіцыйных палітыкаў і журналіста Завадскага.

У той серыі пра Васільева падрабязна расказаў былы службовец часці 3214 Дзмітры Новічак.

**Сямён Печанко**

**Да Статкевіча падсаджвалі сухотніка**

Пра тое паведаміла Марына Адамовіч, жонка палітвязня. Інфармацыя пра тое дайшла толькі цяпер.

## Улады баяцца Вінаградава

Суд наклаў на хлопца **прэвентыўны нагляд**.

Падставай для гэтага сталі адміністацыйныя арышты актывіста кампаніі «Тавары праўду», а таксама заключэнне міліцыянтаў. Згодна з ім, пасля вызвалення Павел Вінаградаў «вядзе антыграмадскі лад жыцця, здзяйсняе адміністрацыйныя правапарушэнні, падтрымлівае сувязі з раней асуджанымі асобамі і асобамі сумнеўных паводзінаў». На Паўла на два гады ўсклалі шэраг абмежаванняў. Ён павінен паведамляць аб змяненні месца жыхарства і працы, выязджаць за межы Мінска без згоды органа ўнутраных спраў забаронена, ад 20.00 да 7.00 мусіць знаходзіцца дома, раз на тыдзень адзначацца.

«Падобныя прысуды пераследуюць дзве мэты: запужаць альбо перашкодзіць у працы, — адзначыў актывіст. — Запужаць мяне цяжка. А працы, што ж, зашкодзяць. Але нічога. Ёсць жа інтэрнэт — дзякаваць богу, XXI стагоддзе».

У сакавіку прэвентыўны нагляд быў устаноўлены над актывістам «Маладога фронту» Уладзімірам Яроменкам.

**СМ**

## «Вясна — цяжкі час для зэка»

Асуджаныя анархісты **звыкліся з вязніцай**.

Палітвязень-анархіст Ігар Аліневіч даслаў чарговы ліст. «Маё становішча не памянялася, хіба што стаў менш наіўным, — па-філасофску піша ён. — У такіх месцах дзесяцігоддзямі адточвалася майстэрства інтрыг, маніпулявання, двудушнасці — прысутнасць такой атмасферы надта адчуваецца. Хочаш не хочаш, а даводзіцца вучыцца разбірацца ў людзях, бачыць прыхаваныя матывы, хаця гэта і непрыемна».

Палітвязень адзначае, што звыкся з абстаноўкай. І паставіў сабе за мэту самаразвівацца: «цялесна, духоўна, разумова. Займаюся фізкультурай, чытаю мастацкую літаратуру, развіваю самакантроль у кантактах і штодзённых побытавых справах». «Страху я не адчуваю зусім — я сваё ўжо адбаяўся ў СІЗА», — падсумаваў Ігар.

Палітвязень Аляксандр Францкевіч, асуджаны па адной справе з Аліневічам, выказаў заклапочанасць справай Юрыя Чыгілейчыка. Ён хацеў бы, каб Чыгілейчыка «прызналі палітвязнем. Бо гэта для міліцыі будзе сур'ёзным стрымліваючым фактарам (па сабе адчуў). Агалоскі яны не моцна, але баяцца».

Аляксандр рады вясне. «У нас Брэст — цяплее раней за ўсё ў Беларусі. Зона не пабудавана па камерным тыпе — ёсць барак, разбіты на секцыі, і лакальны ўчастак. У сталоўку, па заказныя лісты і г.д. хаджу па свежым паветры. Цяпер, калі цёпла, — адно задавальненне. Праўда, вясна — цяжкі час для зэка: настальгія...».

**Сяргей Макарэвіч**

### Сцісла

**Штрафы**

Мінчукоў Насту Шулейку і Юрыя Ходуса аштрафавалі на 2 і 1,5 млн рублёў адпаведна нібыта за дробнае хуліганства. Маладых людзей затрымалі 11 красавіка каля станцыі метро «Кастрычніцкая», дзе ў гадавіну выбуху адкрывалі мемарыяльны знак «Рака памяці». На Шулейку і Ходуса склалі пратакол за тое, што яны нібыта брыдкаслóвілі. Пры арышце, наракаюць яны, ім пабілі экран мабільнага тэлефона.

**Невыязны**

11 красавіка Аляксандр Атрошчанкаў ехаў у Вільню разам з жонкай. Напярэдадні ён атрымаў з аддзела па грамадзянстве і міграцыі даведку, што выезд за межы краіны яму дазволены. Аднак на станцыі «Гудагай» Атрошчанкава знялі з цягніка, а ў дакументы паставілі адпаведны штамп.

**КМ**

# Litesound рыхтуецца перамагаць у судах



PHOTO BYMEDIA.NET

Удзельнікі «Еўрабачання» падаюць у суд на «Новую хвалю», а **не на «Народную Волю»**.

Перад выходнымі ў сацыяльнай сетцы Facebook кіпелі жарсці. Выкліканыя яны былі чуткамі пра тое, што гурт Litesound падаў у суд на газеты «Народная Воля» і «Комсомольская правда в Беларуси». Год таму выданні працытавалі словы, якія сказаў пра гурт генеральны дырэктар фестывалю «Новая хваля». Заходнія поп-зоркі радыя, калі пра іх пішуць, а нашы — наадварот, іранізаваў ветэран беларускай музычнай крытыкі Зміцер Падбярэзскі.

Нагадаем, на прэс-канферэнцыі, прысвечанай гала-канцэрту нацыянальнага адбору на конкурс «Новая хваля», Аляксандр Румянцаў адзначыў, што на канцэрт запрасілі толькі «тых, хто чагосьці варты», і ацаніў гурт Litesound як «тандэту».

Музыкі абразіліся і падалі на Румянцава ў суд. «Мы лічым, што гэтыя выказванні ганяць гонар музыкаў і рэпутацыю гурта, — лічыць прадзюсар Юры Каракін. — Таму патрабуем пакрыць нанесеную шкоду, якую ацэньваем у мільярд рублёў — па 500 мільёнаў на кожнага з пацярпелых».

«Мы запрасілі аўтараў матэрыялаў на пасяджэнне, — паведаміў Каракін карэспандэнту «НН». — Пры гэтым да газет ніякіх прэтэнзій не маем».

Суд пачнецца ў пятніцу, 20 красавіка.

«НН» будзе сачыць за развіццём падзеяў.

**Юрась Ускоў**

# Ахоўнікі Абамы пагарэлі на прастытутках

Справа **выйшла на яву** пасля спрэчкі аднаго з іх за 50 даляраў.

Агент амерыканскай Сакрэтнай службы зганьбіў Амерыку пасля вясёлай ночы, якая скончылася спрэчкай з калумбійскай прастытуткай пра кошт, — дзяўчына хацела выбіць з яго дадаткова эквівалент 47 даляраў.

Адзін з адзінаццаці элітных агентаў, адпраўленых для аховы прэзідэнта Абамы на Панамерыканскім саміце ў калумбійскім горадзе Картахена, быў выкрыты пасля таго, як ягоная лэдзі на адну ноч адмовілася пакінуць гатэльны пакой. Тая жанчына была адной з адзінаццаці прастытутак, выкліканых у гатэль у тую ноч, — паведамляе газета «Нью-Ёрк пост», — і толькі з ёй адной разгарэўся канфлікт у шыкоўным гатэлі «Карыбэ», дзе спынілася амерыканская дэлегацыя.

Папярэдняе сенацкае расследаванне выявіла, што агенты прыбылі ў Картахену тыдзень таму і ўвесь час моцна пілі. У ЗША парламент мае правы кантролю над прэзідэнцкімі службамі, таму «разбор палётаў» у Картахене трапляе ў яго кампетэнцыю.

Прастытуцыя ў Калумбіі легальная ў некаторых «зонах талеранцыі», там яе кантралюе паліцыя. Паслугі прастытуткі ў Картахене каштуюць прыкладна $47 даляраў у эквіваленце, паведамляе калумбійскае тэлебачанне.

Паводле тамтэйшага закона, прастытутка абавязана пакінуць пакой кліента і забраць свой пашпарт у рэцэпцыі гатэля да 7-й гадзіны ранку. Калі гэтага не здараецца, адміністратар абавязаны выдаліць яе. Калі ён падняўся ў нумар, ён застаў агента з жанчынай за высвятленнем адносінаў.

Хоць агенты не парушылі законаў краіны перабывання, але яны моцна парушылі правілы Сакрэтнай Службы. Яны, збольшага, жанатыя, і сувязь з прастытуткай робіць іх аб'ектамі шантажу. Скандал ужо назвалі «самым непрыемным» за ўсю гісторыю сакрэтнай службы. Да таго ж, ЗША сталі аб'ектам кпінаў у Лацінскай Амерыцы.



Абама заявіў, што, калі паведамленне аб прастытутках пацвердзіцца, агентаў чакае жорсткае пакаранне. Усяго пад падазрэнне трапілі 11 агентаў Сакрэтнай Службы і 5 вайскоўцаў. «Такія рэчы не здараюцца аднойчы, калі яны не адбываліся да гэтага», — заявіў кангрэсмэн Дарэл Іса.

Са словаў крыніц агенцтва Reuters, праца агентаў надзвычай стрэсавая, таму часцяком вечарамі яны выпіваюць і расслабляюцца ў барах. Вечарынкі найчасцей ладзяць у тыя дні, калі «першы борт» з прэзідэнтам пакідае Вашынгтон.

Чыноўнікі дадаюць, што сярод агентаў доўгі час гуляла прымаўка, якую можна перакласці як «сеў у машыну — здымай пярсцёнак».

**Сяргей Гезгала**

**«Сакрэтная служба ЗША»** (United States Secret Service) — амерыканскі аналаг нашай Службы аховы прэзідэнта. У яе ўсяго дзве задачы: ахова нацыянальных лідараў і змаганне за падробкай грошай. Дзеліцца на дзве часткі: адны нясуць службу ў форме, другія — у цывільным.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Памылка мэра

10 красавіка мінскі мэр Мікалай Ладуцька даў прэзідэнцкай газеце падрабязнае інтэрв'ю. Расказваючы, якая ўзнёслая — і ў простым, разам з паднябеснымі хмарачосамі, і ў пераносным сэнсе — будучыня чакае амаль тысячагадовы горад і яго жыхароў, Ладуцька не абмінуў мінулае: «Ужо да 9 Мая ў памяшканні, дзе раней жыў мінскі губернатар, з інтэр'ерамі XIX стагоддзя, мы адчынім першую чаргу галерэі Міхаіла Савіцкага».

Не ведаю нават, што галоўнае ў ёмістым паведамленні мэра: губернатар, інтэр'еры ці галерэя Міхаіла Савіцкага, быццам апошні калі не наш Рафаэль, дык Ілля Рэпін... Здаецца ўсё ж, што галоўнае — гэта «9 Мая». Тут і сапраўды можна спатыкнуцца аб такую непрыкметную гістарычную прыступку, як «памяшканне, дзе жыў мінскі губернатар»... Бо якое дачыненне мае нейкі губернатар да «ўсенароднага свята»? Тым больш да «сядзібы Станкевіча», таксама помніка даўніны, пра якую, заблытаўшыся, насамрэч згадвае мэр...

Я, магчыма, дараваў бы мэру ягоную памылку, калі б у «памяшканні», дзе ад канца XVIII стагоддзя жылі мінскія губернатары, не прайшлі найлепшыя сем гадоў майго школьнага дзяцінства. І ніякіх «інтэр'ераў XIX стагоддзя» ў ім не было. Акрамя, мабыць, жалезных усходаў на апошні другі паверх, кафляных печаў ды высачэзных вокнаў з прыгожымі ўзорыстымі пераплётамі...

Першы раз я пайшоў у гэтае «памяшканне» 1 верасня 1948 года. Спачатку па беразе Нямігі, якая несла свае каламутныя воды яшчэ на паверхні,

## «Я — чалавек, які служыць «вертыкалі» »

потым па вуліцы Нямізе ўздоўж нясканчонага, здавалася, шэрагу таўстасценных дамоў, міма цьмяных, агароджаных да бляску пацёртымі чыгуннымі парэнчамі, вітрын былых прыватных крамак ды рамесных майстэрняў; час ад часу збочваючы ў немірогаючыя правалы нізкіх арак, каб, пераадолеўшы страх ад малазразумелага, поўнага таямнічых нечаканасцяў, жыцця змрочных, прасякнутых салодкім пахам газніцаў і пячнога смуроду двароў, выйсці да светлай прасторы плошчы Свабоды, да залатых клёнаў старога сквера з разбураным фантанам пасярэдзіне; да эцюдаў Чэрні і бясконцых пасажаў гам з расчыненых вокнаў «памяшкання», дзе будучыя музыкі і кампазітары, сярод іх і сёння знакамітыя, пацеючы, спасцігалі законы гармоніі і дзівосных гукаў з боскай вышыні...

Здараліся на той плошчы і іншыя гукі: стрэлы... выбухі... крыкі перапужаных варон...

Няма сёння ні той Нямігі, ні жалезных усходаў, ні высачэзных вокнаў з узорыстымі пераплётамі. Няма самога «дома губернатара», дзе яшчэ з даваенных часоў месцілася музычная школа. Так, школа, дакладней, музычная гімназія-каледж у тым «памяшканні» на пл. Свабоды, 7 існуе і сёння. Але гукаў з вышыні на плошчы не чуваць, толькі рык аўто, што набіраюць хуткасць. Гукі з вышыні і былы «дом губернатара» замураваны за глухімі сценамі збудавання канца 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Але чамусьці вісіць на гэтых сценах абвестка аб тым, што будынак школы ў «комплексе былога калегіума езуітаў» узведзены ў... 1699 годзе. Госць сталіцы здзівіцца, чаму тры стагоддзі таму будавалі, як пры Брэжневу...

Не, дараваць мэру памылку нельга. Бо не падсечаны яе карані. Яны — у гвалтоўных адносінах да мінулага. Раней — у бяздумным разбуральніцтве. Сёння — у так званай «рэстаўрацыі з рэканструкцыяй», пад якой, толькі калупні, хаваецца не столькі «культурны», колькі ідэалагічны і наўпрост меркантыльны пласт. Навошта тут ведаць, дзе насамрэч быў дом колішніх губернатараў?

Навошта ведаць, калі і дзе працаваў Скарына?..

Аўтара выказвання пра «Скарыну ў Пецярбургзе», дарэчы, узгадаў у тым інтэрв'ю сам Ладуцька. «Я — чалавек, які служыць «вертыкалі», — з гонарам паведаміў мэр. — Мяне прызначаў на гэтую пасаду кіраўнік дзяржавы, і мая задача — цалкам забяспечваць правядзенне ягонай палітыкі...»

Я ж, па наіўнасці, думаў, што мэр павінен служыць насельніцтву.

«...На плошчы Свабоды, 15 завяршаецца рэканструкцыя былога дома губернатара Мінска...»

Гэта ўжо 12 красавіка, «Вечерний Минск», газета мэрыі.

*kamerton_41@mail.ru*

# Беларускія лекі: стэрэатып памылковы?

Да 2015 года палова ўсіх купленых беларусамі лекаў павінна быць айчыннай вытворчасці. Нашы прэпараты даступныя па цане, а па якасці не саступаюць замежным аналагам, заявіў міністр аховы здароўя.

Аднак многія людзі ў беларускія лекі не вераць, імкнуцца закупіць імпартныя любым коштам.

Якія даследаванні праводзяць фармацэўтычныя прадпрыемствы, каб гарантаваць якасць сваёй прадукцыі? З гэтым пытаннем мы звярнуліся ў **«Лекфарм»** і **«Трайплфарм»**.




### «Мы не каменны век»

«У нас усё імпартнае абсталяванне: вытворчае і па кантролі якасці... Камп'ютарызаванае, кіраванне — з сэнсарнага экрана. Мы не каменны век», — кажа **Наталля Слесарава**, намесніца дырэктара па якасці СТАА **«Лекфарм»**. У прадпрыемства ёсць міжнародны сертыфікат належнай практыкі вытворчасці GMP (Good Manufacturing Practice).

Аднак сертыфікат ды замежнае абсталяванне — яшчэ не гарант якасці. Эфектыўнасць лекаў павінны пацвердзіць біяэквівалентныя выпрабаванні. Справа ў тым, што Беларусь, як і шмат якія краіны, свае лекі амаль не распрацоўвае. У нас вырабляюць пераважна генерыкі, аналагі запатэнтаваных лекаў.

Генерык мае аднолькавую з арыгіналам актыўную субстанцыю. А значыць, і лячыць павінен не горш.

Каб вызначыць гэта, таблеткі правяраюць спачатку «ў прабірцы» («in vitro»), затым — на людзях («in vivo»). Напрыклад, у лабараторных умовах параўноўваецца растваральнасць генерыка і арыгінала. Па гэтым паказчыку яны мусяць адрозніваца не больш чым на 5%.

Толькі пасля лабараторных даследаванняў эфектыўнасць лекаў правяраецца на добраахвотніках.

«Лекфарму» ні разу не адмаўлялі ў рэгістрацыі лекаў. «Мы спачатку дабіваемся ў сябе адпаведных вынікаў. Перш чым падаць на рэгістрацыю, мы ўпэўненыя на 90%, што ў нас будзе станоўчы вынік», —- кажа намесніца дырэктара.

Аднак даць нам дакументы з вынікамі біяэквівалентных выпрабаванняў яна адмовілася: камерцыйная таямніца.

### In vitro ды in vivo

Калі «Лекфарм» правярае свае таблекі «in vitro» і «in vivo», то антыбіётыкі **«Трайплфарма»** праходзяць толькі клінічныя выпрабаванні.

«Нашы прэпараты правяраюць у клініцы. Там рэальныя хворыя, якім патрэбная дапамога. Ім уводзяцца нашы антыбіётыкі і глядзіцца, як паводзіць сябе прэпарат, як рэагуе пацыент. Ці няма ў яго алергічных рэакцый, пабочных дзеянняў», — кажа **Жанна Пятроўская**, намесніца дырэктара па якасці.

Ёсць зацверджаны пералік медыцынскіх устаноў, на базе якіх могуць праводзіцца клінічныя даследаванні. Час паміж распрацоўкай прэпарата-генерыка і запускам яго ў вытворчасць складае не менш за 1,5 года.

З яе словаў, па выніках клінічных даследаванняў відаць, што эфект ад ужывання такі ж, як і ад імпартных сродкаў.

### Еўропа таксама памыляецца

За апошні час патрабаванні Міндароўя да лекаў сталі нашмат больш жорсткімі, кажа Пятроўская.

«Мы ідзём па шляху гарманізацыі з патрабаваннямі Еўропы (а самыя строгія — у ЗША). Таму няякасныя лекавыя сродкі проста тэарэтычна не могуць патрапіць на рынак. Проста звыклі лічыць, што ўсё замежнае — якаснае, беларускае — не», — кажа жанчына.

Такіх жорсткіх патрабаванняў, як у фармпрамысловасці, няма ні ў якой іншай галіне. «Мы ямо прадукты кілаграмамі. А таблетачку выпіваем раз на тыдзень. Нам, работнікам фармпрамысловасці, цяжка ўспрымаць такія мяккія патрабаванні, якія ёсць у харчовай прамысловасці, касметычнай, бо ў нас усё вельмі строга», — запэўнівае Пятроўская.

Зрэшты, чалавечы фактар ніхто не адмяняў. Ва ўсім свеце ёсць і сумленныя працаўнікі, і тыя, што робяць абы-як. Нават у Еўропе могуць памыліцца.

«Вось нядаўна выйшла рэзалюцыя Еўрапейскага саюза з нагоды санкцый беларускім чыноўнікам і прадпрыемствам, — кажа намесніца дырэктара прадпрыемства, якое патрапіла пад гэтыя санкцыі. — У ёй вельмі шмат абдрукоўвак, яна неяк недапрацавана. Выклікае здзіўленне, гэта ўсё-ткі Еўрапейскі саюз».

### Лекі таннейшыя, бо заробак не 500$

За кошт чаго айчынныя лекі атрымліваюцца больш таннымі? Калі па якасці яны не саступаюць імпартным аналагам, матэрыялы — тыя самыя, да таго ж, трэба праводзіць складаныя выпрабаванні?

Супрацоўніцы абодвух фармзаводаў лічаць, што справа ў заробках: «У нас танная працоўная сіла ў параўнанні з Еўропай, ці не так? Мы толькі імкнёмся да сярэднямесячнага заробку 500$, а ў Еўропе даўно заробак нашмат вышэйшы», — кажа намесніца дырэктара «Лекфарма».

Да таго ж, у нас рэгулююцца цэны на лекавыя прэпараты. «Мы падпісвалі мемарандум аб непавышэнні цэн ці пра нязначнае павышэнне», — кажа намесніца дырэктара «Трайплфарма».

«Мы б таксама хацелі падняць цэны і вырабляць па такіх, як гэта робіць Еўропа. Але Міндароўя праводзіць сацыяльную палітыку і разумею, што нашаму насельніцтву такія лекавыя сродкі недаступныя. Мы проста змяншаем свой прыбытак, вось і ўсё. А некаторыя прэпараты нават і стратныя».

Як сказала Наталля Слесарава («Лекфарм»), іх прадпрыемства ўсё ж рэнтабельнае. «Ну калі ўжо зарэгулююць нас моцна... А пакуль што рэнтабельныя».

Жанна Пятроўская («Трайплфарм»): «Летась у нас цэны былі выстаўлены з разліку курс даляра — 3 тысячы. Мы рэалізавалі па 3, а куплялі ўжо па 8. А Міндароўя казала цэны больш чым на 5% не падымаць, бо насельніцтва нас не зразумее».

Мы запыталі, як тады пакрывалі розніцу. «Ну неяк потым выраўнялі. Сказаць, што нейкія звышпрыбыткі ёсць — нельга», — кажа спн.Пятроўская.

«Уся краіна перажыла, і мы перажылі. Усе думаюць, што беларускія вытворцы бяруць сыравіну за 5 капеек, абы-як робяць і за кошт гэтага атрымліваецца танны лекавы сродак? Зусім не так», — кажа намесніца дырэктара «Трайплфарма».

### Меркаванне дактароў

## Клінічныя даследаванні? Не смяшыце!

(Па просьбах дактароў, не называем прозвішчаў.)

**Эфектыўнае не можа быць танным?**

**Аляксей, Віцебск:** «Я не хачу сказаць, што беларускія лекі дрэнныя. Проста яны не адпавядаюць заяўленаму «таннае — такое ж эфектыўнае, як імпартнае». Я за тое, каб у беларусаў быў выбар. Эфектыўнае не можа быць танным. Калі таннае — значыць, эфектыўнасць не адпавядае напісанай на ўпакоўцы.

Вы паглядзіце, што цяпер робіцца. Чаму Міндароўя цяпер вырашыла ўвесці рэцэпты на ўсе лекі? У газетах і на тэлебачанні скажуць: яны думаюць пра ваша здароўе. Каб вы самі не пайшлі ў аптэку і не купілі нейкі там прэпарат і не атруцілі свой арганізм. Але гэта было б вельмі проста, каб гэта было так. Гэта імпартазамяшчэнне па-беларуску: «перакрываем» доступ у аптэках, а дактароў падціснулі, каб выпісвалі тое, што трэба. І будзе — «купляйце беларускае».

Але нельга тут ганіць заводы. Яны — закладнікі, такія ж, як дактары і пацыенты. Яны б і выпускалі тое, што хацелі выпускаць. Але ёсць дзяржаўнае абмежаванне цэнаў».

**Анатоль, Мінск:** «Што тычыцца клінічных даследаванняў, то ў ідэале павінна быць «двайное сляпое рандомнае даследаванне». Гэта мусіць выпрабоўвацца ў некалькіх месцах. Утвараюцца дзве групы людзей-добраахвотнікаў: адны ядуць пустышкі, другія — сапраўдныя прэпараты. Ніхто не ведае, што яны прымаюць, нават самі дактары. Гэтым займаецца адмысловая ўстанова, толькі яна ведае, хто што піў. Лекары проста дасылаюць у гэты цэнтр пэўны набор аналізаў хворых. Пры гэтым не даюць ацэнкі, што прэпарат А лепшы за прэпарат Б. А ўжо гэты цэнтр усё аналізуе, статыстычна апрацоўвае і дае сваё заключэнне.

Праводзяцца ў нас такія даследаванні? Колькі я быў на курсах павышэння кваліфікацыі БелМАПА, нідзе не чуў пра такое даследаванне, каб яно хоць раз праводзілася».

**Аксана Рудовіч**

**Калі вы сутыкаліся з праблемай эфектыўнасці беларускіх і дарагавізны замежных медыкаментаў, раскажыце «Нашай Ніве».**

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.
e-mail: nn@nn.by.
Тэл/факс: (017) 284-73-29**

**Якім чынам «зарабляюць»** лоўкія старшыні СВК.

# «За тры гады старшыня калгаса можа назбіраць $30 тысяч»


PHOTO BYMEDIA.NET
Падвозчыкі корму для быдла

**Каб заўсёды жыць у шчасці, трэба красці, красці, красці — савецкая прыказка ў СВК невыкараняльная**

Памятаеце гісторыю старшыні сельгаскааператыва з Дзятлаўшчыны, у якога скралі дзясяткі тысяч даляраў?

На мінулым тыдні КДБ заявіў пра раскрыццё злачыннай групоўкі, якая вывозіла ў краіны ЕС калійныя ўгнаенні. У паведамленні гаворыцца, што ўгнаенні афармляліся для атрымання беларускімі гаспадаркамі, вывозіліся ў розныя раёны краіны, а потым па падробленых дакументах вывозіліся за мяжу. Камітэт пакуль не паведамляе, кім з'яўляюцца затрыманыя. Аднак можна дапусціць, што да справы маглі быць датычныя кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, на імя якіх першапачаткова афармляўся груз.

На просьбу Рэдакцыі галоўны спецыяліст аднаго з сельгаскааператываў расказаў, якім чынам старшыні і галоўныя спецыялісты СВК атрымліваюць «шэрыя» прыбыткі. За 2—3 гады кіраўнік моцнага калгаса можа назбіраць пару дзясяткаў тысяч, кажа ён.

### Сумленны і сумнеўны

Існуе два варыянты дасягнення поспеху — сумленны і сумнеўны.

Разгледзім першы. У моцных гаспадарках старшыні атрымліваюць 5—6 мільёнаў рублёў у месяц (пры сярэднім заробку па гаспадарцы да 1,7 мільёна). Калі ў такога старшыні яшчэ і жонка ў апараце працуе намесніцай ці галоўным эканамістам (такое часта сустракаецца), то яе заробак будзе адрозніваецца ад заробку мужа працэнтаў на 20%. Калі такая сям'я будзе ашчаджаць на прадуктах — усё ж сваё, то назбіраць можна $10 тысяч у год.

Кіраўнікі слабых гаспадарак задавольваюцца сумамі ў 2—4 разы сціплейшымі.

Другі спосаб прадугледжвае атрыманне прыбыткаў з розных крыніц. Не трэба нагадваць, што ён незаконны.

Адна з галоўных крыніц несумленных прыбыткаў — адкаты. Набыццё ветпрэпаратаў, пестыцыдаў, запчастак у абранага пастаўшчыка могуць прыносіць старшыні 10—15% «узнагароды» ад памеру цаны паставак. Па выніках года на маніпуляцыях з запчасткамі можна «зарабіць» да 30 мільёнаў рублёў, на ветпрэпаратах — да 20 мільёнаў.

### Як зарабляюць на мясе

Здаровую адкормленую карову ці бычка можна «ўсушыць» удвая, занізіўшы ў дакументах яе рэальную вагу і стан. Палову мяса афіцыйна прадаць шараговаму супрацоўніку прадпрыемства ці староннай асобе, а рэшту — набліжанаму да «шарага» бізнэсу камерсанту. Выглядае, аднак, што гэты спосаб нажывы даволі рызыкоўны. Бо ў працэс даводзіцца прыцягваць супрацоўнікаў фермы, ветдоктара, камерсанта. І справа тут не толькі ў тым, што старшыні даводзіцца дзяліць «ганарар», а ў наяўнасці дадатковых носьбітаў інфармацыі.

Схема продажу гародніны, найперш бульбы, даволі простая: набываеш па заніжанай цане і прадаеш па рынкавай.

### І на пестыцыдах

Галоўныя спецыялісты маюць доступ да хімікатаў. Тут аддаецца перавага пестыцыдам: тара значна меншая, цана высокая. Прэпарат спісваецца як выкарыстаны. Але частка прытойваецца і прадаецца за 50% ад рынкавай цаны.

Наш суразмоўца перакананы: адзіны спосаб выкараніць карупцыю ў сельскай гаспадарцы — развіваць фермерства. Ні высокія заробкі для кіраўнікоў, ні дамоклаў меч праверак і арыштаў выбудаваную сістэму «каб заўсёды жыць у шчасці...» не зламаюць.

**Сямён Печанко**

# Трагедыя на Вялікдзень



Пяцёра беларусаў **з Сянна і Ліды загінулі** ў аўтакатастрофе ў Расіі.

Яшчэ не скончыліся ўсяночныя ў храмах, калі а 5.30 раніцы 15 красавіка на 394-м кіламетры трасы «Дон» у Ліпецкай вобласці на аб'ездзе Яльца разбіўся мікрааўтобус «Фальксваген Транспарцёр», зарэгістраваны ў Беларусі. Ён урэзаўся ў грузавік «МАН», які стаяў на ўзбочыне.

Па інфармацыі прэс-службы УУС Ліпецкай вобласці, да моманту аварыі аўтамабіль правёў у дарозе каля чатырнаццаці гадзін. І па адной з версій, зусім юны, 21-гадовы кіроўца «Фальксвагена» мог проста заснуць за рулём, пасля чаго мікрааўтобус страціў кіраванне. Загінулі ўсе маладыя — мужчыны ад 19 да 36 гадоў.

Ахвяраў пяць, яшчэ трое з рознымі траўмамі знаходзяцца ў бальніцы ў Яльцы. У гэты святочны дзень нашы землякі ехалі на заробкі ў Варонежскую вобласць.

**Кастусь Матушыч**

**Год таму, таксама на Вялікдзень** жудасная аварыя здарылася пад Маларытай. У сутыкненні мікрааўтобуса «Фальксваген-Каравела» з рэйсавым аўтобусам загінулі 7 чалавек, у тым ліку трое дзяцей.

# Следчы камітэт: сталічны чыноўнік не грэбаваў нічым

У канцы студзеня Следчы камітэт Беларусі паведаміў пра крымінальную справу супраць намесніка кіраўніка адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска. Яго абвінавацілі ў атрыманні хабару (ч. 3 арт. 430 КК).

«Высветлена, што чыноўнік неаднаразова атрымліваў хабар ад прадпрымальнікаў, у тым ліку ў буйным памеры, за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю», — растлумачылі ў прэс-службе камітэта. Справу яшчэ прыйдзецца даказаць у судзе, і ў СК пакуль не раскрываюць усіх яе падрабязнасцяў, але кажуць, што першыя вынікі расследавання наглядна дэманструюць узровень карупцыі ў адміністрацыі Маскоўскага раёна.

Затрыманы некалькі гадоў займаў пасаду першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Маскоўскага раёна і курыраваў пытанні эканомікі, гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, занятасці насельніцтва, выплаты заробкаў, прадпрымальніцкай дзейнасці, рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання, інвестыцый, сістэмы ахоавы працы.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у асноўным чыноўнік «працаваў» з прадпрымальнікамі. Следчыя прыйшлі да высновы, што грошы чыноўніку плацілі літаральна за ўсё. Няважна, чым хацелі займацца на тэрыторыі раёна прадпрымальнікі — ім у любым выпадку трэба было плаціць.

Паводле дадзеных следства, чыноўнік, які займаў такі высокі пост, не грэбаваў браць з прадпрымальнікаў па $100 нават за правы рэалізацыі ёлак напярэдадні Новага года.

**Паводле «Ежедневніка»**

## Сціслa

**Заснуў за рулём**

У ноч з 11 на 12 красавіка на трасе Мінск—Брэст пад Баранавічамі ў аварыю трапілі грамадзяне Украіны. Мусіць, 23-гадовы кіроўца мікрааўтобуса «Мерсэдэс» заснуў за рулём, у выніку чаго аўто ўрэзалася ў паўпрычэп фуры. 50-гадовы пасажыр, які ехаў на пярэднім сядзенні, загінуў на месцы. Яны вярталіся дадому з Расіі з заробкаў.

**Упаў на рэйкі**

14 красавіка прыкладна ў 23.48 у Мінску на станцыі «Уручча» на рэйкі ўпаў 30-гадовы жыхар Бараўлян Мінскага раёна. П'яны быў.

**Кіроўца памёр за рулём маршрутнага аўтобуса**

15 красавіка каля 13-й на вуліцы Філімонава ў сталіцы маршрутны аўтобус урэзаўся ў слуп. Кіроўца памёр, хаця траўмаў не атрымаў. Не выключана, што ў яго здарыўся сардэчны прыступ.

**Зараблялі «траўкай»**

На рынку «Ждановічы» затрымалі 25-гадовага мінчука за продаж 1 грама марыхуаны. Пры сабе ў яго знайшлі яшчэ 13 г «траўкі». Праз гадзіну следчыя выйшлі на іншага мінчука, у якога затрымалы ў Ждановічах малады чалавек і браў тавар на рэалізацыю. У гэтым выпадку міліцыянты канфіскавалі 144 г марыхуаны.

**Далёка не дабег**

14 красавіка быў затрыманы 21-гадовы Арцём П., які падазраецца ў здзяйсненні аварыі ў Мінску 6 красавіка. Тады ў выніку ДТЗ на праспекце Незалежнасці загінула студэнтка БДУ, якая знаходзілася ў аўтамабілі. Кіроўца Kia Sephia з'ехаў з дарогі і ўрэзаўся ў ліхтарню. Ён кінуў паміраць пасажырку, а сам збег. Па інфармацыі міліцыі, ён быў нецвярозы.

**Асуджаны міліцыянт, які прапусціў Канавалава ў метро**

Пра гэта паведамілі ў дакументальным фільме «Метро» на БТ, прысвечаным гадавіне тэракта.

Відэакамеры зафіксавалі, як міліцыянт 11 красавіка 2011 за 16 хвілін да выбуху размаўляе з супрацоўніцай метро. А ў гэты час побач праходзіць чалавек з вялікай сумкай. На судзе прызналі, што гэта быў Дзмітрый Канавалаў, які пранёс выбухоўку.

Паставы Віталь Рагачэўскі, які не праверыў сумкі, правядзе тры гады за кратамі.

**КМ**

# «Адыграла ролю цвёрдасць Латушкі»

З вежы Нясвіжскага палаца Радзівілаў **зьнялі «цыбуліну»**.

Пры рэстаўрацыі палаца Радзівілаў на адну з вежаў, насуперак гармоніі, уссадзілі цыбулепадобны купал. Здарылася тое ў 2004-м. Аргументавалі такі выбар выявай з гравюры Тамаша Макоўскага XVII ст. Аднак рэшта замкавага комплексу рэстаўравалася ў адпаведнасці з выглядам іншай эпохі — канца XVIII ст. Цыбуліны не зразумеў ніхто, у тым ліку і сям'я Радзівілаў.

Намесніца дырэктара Нясвіжскага запаведніка Наталля Жарко апраўдваецца: «Калі распачыналіся працы ў 2003-м, вежа была ў жахлівым стане, яе трэба было ратаваць». Незадоўга да таго Нясвіжскі замак стаў ахвярай жудаснага пажару.

«Папярэдняя вежа не стасавалася з агульным выглядам палаца, — кажа былы міністр інфармацыі і культуры Анатоль Бутэвіч, адзін з арганізатараў збору сродкаў. — Тым больш, недаказальна, што «цыбуліна» адпавядала сваіму выгляду ў XVII стагоддзі, бо аднавіць па адзінай гравюры Макоўскага яе было цяжка, маглі ўзнікнуць недакладнасці пры «прачытанні карты». Мне цяжка казаць ці стоадсоткава адпавядае і новая вежа свайму арыгіналу, бо трэба параўноўваць усе параметры. Я бачыў новую вежу на зямлі і бачыў ужо «на месцы» — яна ў залежнасці ад ракурсу выглядае па-рознаму».

Грошы на рэканструкцыю рэканструяванага зьбіралі грамадой. Іх пералічвалі на спецыяльныя рахункі ўсе ахвотныя. Паўдзельнічалі фінансава і нашчадкі Радзівілаў. Цана новай вежы склала 1,5 мільярда рублёў — з улікам працы па ўсталяванні.

## Цана новай вежы — 1,5 мільярда рублёў

Аднак і ў новым купале будаўнікі не здолелі вытрымаць прапорцыі адносна вертыкальнай восі. «Нават калі медны ліст пакрыецца цёмнай пацінай, сітуцыя не выправіцца, бо занадта вялікія разыходжанні з арыгіналам», — наракае старшыня таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч. Купал выйшаў таўсцейшы, груваскі, ён трохі прыдушвае камяніцу.

Аднак Бутэвіч лічыць, што ўсё ж новы купал лепшы. І цешыцца тым, што грошы на замену вежы сабраў народ: «Я бачу рост беларускай сьвядомасці, — кажа ён. — Людзі дзяліліся ўласнымі грашыма. І, канешне, адыграла сваю ролю цвёрдае жаданне Паўла Латушкі замяніць вежу — гэта ж нашмат складаней, перарабляць ужо гатовыя аб'екты».

Што будзе са зьнятай «цыбулінай»? Яе перададуць музею-запаведніку на памяць, кажа Бутэвіч. Фрагменты трапяць у экспазіцыю.

Тэлеканал АНТ назваў замену «цыбуліны» «перамогай гістарычнай справядлівасці». Такім чынам, беларусам давялося заплаціць за вежу двойчы: першы раз — падаткамі ў бюджэт, другі раз — каб перарабіць за гора-рэстаўратарамі.

**Юрась Ускоў**



**У новым купале не трапілі ў прапорцыі. На фота справа — вежа да пажару. Аднак купал з «цыбулінамі» быў увогуле не прышый кабыле хвост.**

**Бібліятэка**

# Вілейшчына Сяргея Макарэвіча

У кнізе журналіст «Нашай Нівы» Сяргей Макарэвіч сабраў больш за два дзясяткі знакамітых землякоў. А гэта і авіяканструктар Сухі, і паэт Максім Танк, і сучасная бельгійская мастачка Вольга Гуськова. «Раскрыць гісторыю, якая прыхаваная», — такую задачу ставіў сабе аўтар.

Добрая кніга пра родны кут натхняе на краязнаўчыя пошукі, як колісь натхнілі аўтара кнігі Арлова, Юхо і Карлюкевіча.

**ІН**




**Макарэвіч С. Край мой верасовы. — Мінск: Кнігазбор, 2012**

**Сьцісла**

### «Басовішча» — 13–15 ліпеня

Арганізатары заяўляюць, што сёлета на «Басовішчы» выступяць як мінімум 10 гуртоў. Два з іх выставяць беларусы Польшчы.

### Выходзіць фільм жахаў пра Чарнобыль

Сюжэт фільма рэжысёра Орэна Пэлі банальны. Шасцёра аматараў экстрэмальнага турызму наймаюць гіда, які прывозіць іх у пакінуты людзьмі горад Прыпяць. Падчас прагулак сярод занядбаных будынкаў яны неўзабаве выяўляюць, што яны ў горадзе не адны... Фільм здымаўся ў Сербіі і Венгрыі. Наведнікі старонкі «Дзённікаў» на Facebook патрабуюць, каб частка прыбыткаў ад пракату пайшла ў дабрачынныя арганізацыі для пацярпелых ад катастрофы. Некаторыя выступаюць за байкот фільма.

### Памёр Аляксандр Парахаўшчыкоў

Ён сканаў у лякарні ў ноч з суботы на нядзелю. У сакавіку, калі ў Парахаўшчыкова здарыўся інсульт, яго жонка зрабіла сабе смерць. У перадсмяротнай запісцы яна патлумачыла свой крок тым, што не хоча і не можа жыць без каханага мужа. Народнаму артысту Расіі Аляксандру Парахаўшчыкову было 72 гады. Ён здымаўся ў такіх фільмах, як «Гары, гары, мая зорка», «Зорка чароўнага шчасця», «Капітан Нэма», «Завяшчанне прафесара Доуэля», «Следства вядуць знаўцы. Мафія», «Варшаўскі стралок» і многіх іншых.

### Futurama па-беларуску

На сайце nn.by можна пабачыць мульфільм «Футурама» (Futurama) — амерыканскі сатырычны мультсерыял, створаны на студыі XXth Century Fox аўтарамі мультсерыяла «Сімпсаны». Дзеянне адбываецца ў Нью-Ёрк-Сіці ў далёкай будучыні — у 3000 годзе. Пераклад на беларускую мову зрабілі энтузіясты, якія схаўрусаваліся ў суполцы «Вконтакте».

### Музейны квартал на Маркса

Квартал мае паўстаць на вуліцах, прылеглых да Мастацкага музея. Жыхароў і арганізацыі з будынкаў на вуліцы Маркса хочуць адсяліць.

**СМ**

**Акцыя**

# Тры брамы ў тваю гісторыю










Распродаж гістарычных кніг. Толькі **да 25 красавіка**.

Прапануюцца тры грунтоўныя кнігі: «Мадэрная гісторыя Беларусі» Юрыя Туронка (больш за 900 старонак), «З Богам да Беларусі» Адама Станкевіча (амаль 1100 старонак), «Да гісторыі беларускай літаратуры» Антона Адамовіча (1464 старонкі).

Туронак першым сярод беларускіх гісторыкаў, даследуючы Беларусь пад нямецкай акупацыяй, абапіраўся не на савецкія, а на нямецкія крыніцы. Гаворка ідзе пра дакументы з архіва Міністэрства ўсходніх занятых абшараў Альфрэда Розенберга, які быў захоплены амерыканцамі ў 1945 і вывезены ў ЗША. Урад Польшчы выкупіў некалькі соцень тысяч дакументаў з гэтага архіва, і акурат з імі працаваў Туронак, каб стварыць сваю выдатную кнігу.

У кнігу заснавальніка Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ксяндза Адама Станкевіча ўключаныя ўсе яго кнігі, якія выйшлі цягам яго жыцця і пасля мучаніцкай сьмерці. У гістарычным блоку друкуюцца дасьледаванні «Вітаўт Вялікі і беларусы», «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» і іншыя. У багаслоўскім і гістарыясофскім — пераклады з Біблії і літургічнай літаратуры. У том увайшоў таксама цудам ацалелы дзённік святара, які друкуецца ўпершыню.

Том «Да гісторыі беларускай літаратуры» прысвечаны беларускай літаратуры як асноўнаму сродку пашырэння і развіцця нацыянальнай ідэнтычнасці. Яго аўтар Антон Адамовіч прэжыў доўгае жыццё, і яго нарысы гісторыі беларускай літаратуры, мабыць, самыя грунтоўныя з тых, што былі створаны па-за межамі навуковых установаў.

Да 25 красавіка тры кнігі можна замовіць за 99 тыс. (без уліку цаны дастаўкі). Дастаўка каштуе 30 тыс. «Белпошта» возьме яшчэ пару працэнтаў ад сумы плацяжу за паштовы перавод.

Каб афармiць замову, дашліце e-mail з пазначэннем вашага прозвішча, імя і імя па бацьку, дакладнага паштовага адраса (абавязкова з індэксам) на адрас dastauka@arche.by. Для лепшай камунікацыі абавязкова пазначце нумар кантактнага тэлефона. У полі «Тэма ліста» пазначайце — «Тры брамы».

E-mail для даведак — dastauka@arche.by.

# Беларускамоўныя школы і садкі: кантакты

Набліжаецца час набору. Трапляйце ў найлепшыя класы, **да найлепшых настаўніц**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У чэрвені пачнецца набор у першыя класы ў школах.

Калі вы хочаце аддаць дзіця ва ўжо існую беларускамоўную школу, улічыце, што часам у школе набіраюць у класы з рознымі замежнымі мовамі (напрыклад, у гімназіі №23 традыцыйна «А» клас — з англійскай, а «Б» — з кітайскай). Каб выбраць дзіцяці тое, што вы лічыце патрэбным, звяртайцеся ў школу як найраней, каб падаць заяву ў першы ж дзень прыёму дакументаў, інакш усе месцы могуць аказацца занятыя.

Калі вы хочаце стварыць беларускамоўны клас у найбліжэйшай да вас школе, вам прыйдзецца згуртаваць аднадумцаў. У гэтай справе ўсё залежыць ад вас. Аддзелы адукацыі і адміністрацыі школаў паспрыяюць вам, калі вы будзеце не адны. Шукайце таварышаў і супольцеся.

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.

E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9** (Сядых, 10): паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.

Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10): паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60** (Лібкнехта, 82) — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68** (зав. Ахоцкі, 17): набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

**СШ №11** (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

* * *

**СШ №72** (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

* * *

**СШ №108** (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by; т.: (017) 245-20-41.

* * *

**СШ №131** (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

* * *

**СШ №180** (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

* * *

**СШ №209** (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

* * *

**СШ №110** (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)

Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)

Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)

Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:

**Заводскі раён**

ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

**Кастрычніцкі раён**

ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277–49–20; ddu97@minsk.edu.by.

**Ленінскі раён**

ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

**Маскоўскі раён**

ДДУ№143 (Караля, 3б). Т.: (017) 200-96-20.

ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.

ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.

ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

**Партызанскі раён**

ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

**Першамайскі раён**

ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.

ДДУ №273 (Каліноўскага, 89. Т.: (017) 263-06-84.

ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.

ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264-60-52.

ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

**Савецкі раён**

ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

**Фрунзенскі раён**

ДДУ №561 (Сухараўская, 9). Т.: (017) 259-09-90.

ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.

ДДУ №570 (Чайлыткі, 8). Т.: (017) 215-60-44

**Цэнтральны раён**

ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (017) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.

ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.

ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.

ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

Дасылайце ў Рэдакцыю інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі.

# Беларуская глыбіня. **Свабода расце з касцей**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Дык стойце ж у свабодзе,*
*якую даў нам Хрыстос,*
*і не схіляйцеся зноў*
*пад ярмо рабства.*
*Да Галатаў 5:1*

На ўзмежжы Пружанскага з Івацэвіцкім раёнаў, за 40 км на ўсход ад Купліна ляжыць фальварак Мерачоўшчына, які традыцыйна лічаць месцам нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, ахрышчанага ў блізкім Косаўскім касцёле. А за тыя ж 40 км на поўдзень, пад Берасце, — родавы маёнтак Касцюшкаў Малыя Сяхновічы, пра які шэраг даследнікаў сцвярджае: Тадэвуш з'явіўся на свет менавіта тут.

Краязнаўцы, аматары ды чорныя шукальнікі, палякі, літоўцы, беларусы дагэтуль рыюцца ў руінах, старых паперах ды сатлелых касцях па ўсёй ваколіцы — і ніяк не могуць дакапацца: няўжо Героя двух кантынентаў, цэлую эпоху ў змаганні за вольнасць нашу і вашу нарадзіў гэты глухі, глыбокі, забіты край?

У снежні 2007, пасля сустрэчы беларускай дэлегацыі ў Вашынгтоне з прэзідэнтам ЗША Бушам амерыканцы вывелі нас з Белага дома проста да помніка Касцюшку: «Гэта мы павінныя быць вам удзячныя за нашу свабоду».

### Касцюшка — косць ад нашае косці »

У краіне найвялікшай свабоды ліцвін генерал Касцюшка — у ганаровай варце каля самага сэрца, і, між іншым, у скульптурнай кампазіцыі побач з польскім паўстанцам у канфедэратцы ўгадваецца збройны беларускі партызан.

Так, Касцюшка — косць ад нашае косці. Тутэйшы, са збяднелае шляхты, палкаводзец гістарычна не проста перамагае, а громіць, руйнуе, знішчае дазвання нашыя ж нацыянальныя стэрэатыпы ды комплексы.

Беларусы — безгалосыя рабы па жыцці? Але вось беларус, што павёў за сабою ў змаганні за волю самыя вольналюбівыя народы ў свеце — палякаў, французаў, амерыканцаў.

У беларуса заўжды свая хата з краю? Але Касцюшка, пакінуўшы ўтульную сядзібу, ахвяраваўшы асабістым жыццём (так і не ажаніўся, не пакінуў нашчадкаў), у сваім сціплым сукмане прайшоў увесь крыжовы шлях змагання за супольную справу — праз лясы і сутычкі, голад і адчай, знясілены, паранены, паланёны...

Беларус, як што якое, адразу хаваецца ў бульбу? Але ў роспачным 1794-м, калі ў цэлай Рэчы Паспалітай не знайшлося таго, хто б узяў на сябе цяжар правадыра, сярод усіх дзеячаў, магнатаў, канфедэратаў толькі беларускі шляхціц не самага слыннага роду, сцяўшы зубы, выступіў наперад.

Дык хто ў свеце ведае, што мы такія, беларусы, увогуле ёсць?.. Але Касцюшка — нацыянальны герой Польшчы, Літвы ды ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі, чыім імем названая найвышэйшая вяршыня Аўстраліі і Акіяніі, універсітэты ды школы, музеі ды вуліцы па ўсёй планеце...

Касцюшка атрымаў добрую хрысціянскую адукацыю ў піярскім калегіуме. Айцы-піяры насамрэч вучылі не піярыцца, а жыць у Божай праўдзе і свабодзе. Увасабленне волі, Касцюшка ўсю сваю маёмасць у запаветах ахвяраваў на вызваленне прыгонных сялянаў у родавым фальварку і выкуп неграў з рабства (даручыўшы выканаць тэстамент будучаму прэзідэнту ЗША і аўтару Дэкларацыі Незалежнасці Томасу Джэферсану). А сваю самую дарагую ўзнагароду — амерыканскі ордэн Цынцыната — ахвяраваў уніяцкай царкве. Апошнія каштоўнасці ўклаў у хрысціянскае адзінства і людскую свабоду.

О, гэтае слова, адно вымаўленне якога распраўляе плечы і напаўняе грудзі: СВАБОДА!

Калі б кожны з беларусаў быў хоць трошкі Касцюшкам — у краіны даўно выраслі б крылы.

Але насамрэч усё глыбей, глыбей — як глыбокія беларускія балоты. Бо гэта Касцюшкава радня дамаглася-такі ў цара Аляксандра I адмены запавету аб вызваленні сялянаў... І за сродкі на выкуп нявольнікаў адвакаты ў Штатах судзіліся не адзін год... Ды і ці не ад рук тых самых запрыгоненых вяскоўцаў падчас бунту ў 1758 загінуў Касцюшкаў бацька, Людвіг?

Ці не тая самая залатая свабода, найяснейшая між усіх еўрапейскіх дзяржаваў шляхецкая вольнасць насамрэч сталася прычынай разбэшчанага развалу цэлай цывілізацыі Абодвух народаў? Ці не яе, свабоды, як агню баяліся тадышнія беларускія сяляне ды абывацелі — тыя самыя, хто сядзеў ціха і роўна праз 200 гадоў пасля паўстання за волю, у 1994-м вольна і самааддана выбралі сабе тырана і вяртанне ў егіпецкае рабства, абы не пёк, не сляпіў больш нясцерпнага зіхацення дар — свабода выбару.

Свабода, беларуская воля — найвышэйшае дабраславенне і найглыбейшае праклящце народа, што спарадзіў Касцюшку!..

Герой наймацнейшага нацыянальнага сплаву косці і ласкавасці, Касцюшка — адзін з тых, хто фармуе касцяк беларускай гісторыі. Бо свабода і праўда расце з касцей. З Курапатаў, Крапіўнаў, касцёльных пагостаў.

Свабода расце з неверагодных, балючых і амаль невыносных вымогаў: захаваць годнасць і адначасова не ўспыхнуць пыхай, не правaліцца ў спакусу і ўтрымацца ад фарысейства, несці адказнасць — і не страціць пры гэтым любові... Свабода расце з касцей, пасеяных святымі, паўстанцамі і ціхімі, непрыкметнымі героямі. Расце павольна, бывае, і сотні гадоў, захоўваецца ў глыбіні, тоіцца, тлее, але, як рунь з памерлага зерня, расце, цягнецца да нябёсаў — каб у час прышэсця Хрыстова пры ўваскрасенні на апошнім судзе кожны з нас засведчыў, як распарадзіўся ўласнай свабодай... Перад Воляй усюдыіснай і вечнай — Божай.

*Куплін*

# «Ён узняў жалезны ложак і ножку ложка паставіў сабе ў рот…»

11 красавіка споўнілася 75 гадоў з дня гібелі старшыні першага ўрада БССР **Змітра Жылуновіча**.

Ёсць легенда: падчас пасяджэння ў Маскве, калі прагучала што ствараць урад БССР няма каму, Жылуновіч устаў і сказаў: «Я ствару». Той беларускі савецкі ўрад улады не меў, быў падпарадкаваны партыйным наглядчыкам Мяснікову і Кнорыну. Беларускія ж нацыянал-камуністы, якія паспрабавалі стварыць дзяржаву ў супрацы з бальшавікамі, былі знішчаныя ў 1930-я.

Абставіны гібелі першага кіраўніка БССР, пісьменніка, нашаніўца, БСГоўца, рэдактара першай беларускай савецкай газеты «Дзянніца» і часопіса «Полымя», арганізатара беларускага кнігавыдавецтва і акадэміка Змітра Жылуновіча дагэтуль не высветленыя. Ёсць некалькі пашыраных міфаў пра яго апошнія дні.



Гартны з сям'ёй. 1929.




**«Органам» было выгадней прыбраць яго ціха і пажадана не ў турме**

### Міф першы: Гартны здзейсніў самагубства

Цкаваць Жылуновіча пачалі ў 1931-м — «вычысцілі» з партыі і накіравалі акадэміка на «перавыхаванне»: рабочым на завод «Вулкан» у Ленінградзе. А ў снежні 1936-га Гартны быў арыштаваны. Яго трымалі ў турме КДБ, «амерыканцы», пяць месяцаў. Пасля перавялі ў Магілёўскую псіхіятрычную бальніцу, дзе праз чатыры дні Жылуновіча не стала.

Афіцыйная прычына яго смерці — «гангрэна лёгкіх». Пра іншае, паводле гісторыка Ігара Кузняцова, сведчыць адказ КДБ на запыт сваякоў пісьменніка: «Ён лёг на падлогу, узняў жалезны ложак і ножку ложка паставіў сабе ў рот, і такім чынам здзейсніў самагубства». Кузняцоў лічыць гэта фантазіяй следчых: цяжка ўявіць, каб змучаны чалавек быў здольны на такое.

Многія нацыянал-камуністы рабілі сабе смерць перад арыштам — Ігнатоўскі, Чарвякоў, Адамовіч. Але Жылуновіч, які прайшоў усе кругі следства, на думку гісторыка, быў забіты. Шляхам нейкай ін'екцыі або проста паскарэння скону змучанага чалавека — неістотна. «Органам» было выгадней прыбраць Жылуновіча, які сябе абылгаў, ціха, без прысуду-расстрэлу і пажадана не ў турме. Магілёўская бальніца была ідэальным месцам.

Сведчанні доктаркі Агнесы Героднік, сведкі апошніх дзён Жылуновіча, падае гісторык Анатоль Сідарэвіч: «...паступіў у бальніцу з месца зняволення з дыягназам «рэактыўны псіхоз». Кантакт з ім быў моцна ўскладнены. Памёр ён хутка пасля паступлення. Я сама рабіла ўскрыццё... прычынай яго смерці было цяжкае хранічнае захворванне — кістознае перараджэнне абедзвюх нырак. Замест ныркавай лаханкі былі пухіры, напоўненыя вадкасцю, як вінаградныя гронкі...»

### Міф другі: Гартны звар'яцеў

Так пішацца ў некаторых крыніцах. Дый перадсмяротнае змяшчэнне ў псіхбальніцу «працавала» на гэтую версію. «Вяртаючыся з допытаў, ён хаваўся пад лаўку і ціха, спалохана шаптаў: «Божа мой!.. Я хацеў забіць Сталіна?» — пісаў ва ўспамінах Масей Сяднёў, які сядзеў з Жылуновічам у адной камеры.

«Такую лухту ім прыпісвалі, — кажа літаратуразнаўца Лідзія Савік, якой давялося ў 1990-я чытаць справу Гартнага ў архіве КДБ. — Што яны Сталіна хацелі забіць, Варашылава, Беларусь адарваць ад СССР і прыяднаць да Польшчы, да Японіі. Пасля сутак допытаў людзям усё рабілася абыякава, яны ўсё падпісвалі».

Спадарыня Савік бачыла ў справе Жылуновіча і даведку ад турэмных дактароў, якія дыягнаставалі «неадэкватныя паводзіны» і «рэкамендавалі» пераводу бальніцу. Значыць, гаворка пра псіхічнае захворванне не ідзе — інакш дыягназ быў бы яснейшы, а пераход — абавязковы. У Гартнага, якога следчыя шантажавалі арыштам сям'і, быў наймагутнейшы нервовы зрыў, лічыць спн.Савік.

Паэт і вязень ГУЛАГа Сяргей Грахоўскі расказваў ёй, як Гартны грукаў кулакамі ў жалезныя дзверы камеры і крычаў: «Гэта ваш Сталін вар'ят! За што нас тут трымаюць?!»

### Міф трэці: На магіле Гартнага стаіць помнік

Гэта напісана ў «Беларускай энцыклапедыі». Між тым, дакладнае месца пахавання Змітра Жылуновіча невядомае. Магілёўскія актывісты паставілі сімвалічны крыж непадалёк ад лякарні, у якой загінуў Жылуновіч — патрыёт, які паверыў бальшавікам. Стваральнік марыянеткавай БССР, з якой вырасла незалежная Беларусь.

**Сяргей Мікулевіч**

## Ляхоўскі: Сярод беларускіх нацыяналістаў былі татары, немцы, літоўцы

Выйшла новая кніга **пра моладзевыя арганізацыі**.

Уладзімір Ляхоўскі выдаў багата ілюстраваную гісторыю беларускага моладзевага руху за апошнія 150 гадоў: «Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)». Хто ж такія гоманаўцы і гайсакі?

**Уладзімір Ляхоўскі:** Я акрэсліў пачатак беларускага моладзевага руху са стварэннем беларускай групы «Гоман» пры расійскай рэвалюцыйнай арганізацыі «Народная Воля» пасля задушэння антырасійскага паўстання на тэрыторыі Літвы і Беларусі ў 1864 годзе. А гайсакі — моладзевая суполка, якую стварыў паэт і журналіст Заходняй Беларусі Уладзіслаў Казлоўскі. Яна мела скаўцкі і спартовы напрамак.

**«Наша Ніва»: Вы звяртаецеся да часоў, калі тэрыторыя Беларусі знаходзілася ў складзе Расейскай імперыі, пад нямецкай акупацыяй, у складзе Польшчы… Які з перыядаў быў найбольш неспрыяльным для дзейнасці?**

**УЛ:** Самымі неспрыяльнымі ўмовамі для грамадскай чыннасці былі савецкія часы — нават падчас правядзення новай эканамічнай палітыкі. Да 1924 года быў зачышчаны ўвесь грамадскі сектар на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Можна казаць толькі пра нейкія краязнаўчыя гурткі. А што тычыцца палітычных і проста грамадскіх небальшавіцкіх установаў — яны былі знішчаны.

**«НН»: Вы пішаце пра этнічных татараў, літоўцаў, немцаў у шэрагах беларускіх нацыянальных арганізацый…**

**УЛ:** Рух за беларускую незалежнасць, за эмансіпацыю беларускай культуры ахапіў людзей, неабыякавых да ідэй дэмакратыі, розных нацыянальнасцяў. Узгадаем віленскую немку Юльяну Мэнке, літоўца Арнольда Дыліса. Андрэй Кубецкі меў татарскае паходжанне, з польскімі каранямі быў пляменнік Янкі Лучыны Антон Некандa-Трэпка, было нямала расейцаў і габрэяў. Беларускі нацыяналізм нельга змяшчаць толькі ў рамкі этнакультурнага беларускага патрыятызму.

**Сяргей Макарэвіч**




Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.) / Уладзімір Ляхоўскі. — Вільня: Інстытут Беларусістыкі / Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2012. — 484 с.

## Уладзімір Арлоў стрэліў

Выйшла новая кніга пісьменніка **«Пакуль ляціць страла»**.

Назвай новая кніга Уладзіміра Арлова пераклікаецца з ранейшым зборнікам гістарычных апавяданняў і аповесцяў «Дзень, калі ўпала страла». Але гэтым разам пісьменнік пайшоў не такім традыцыйным шляхам. Новая кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка радыё «Свабода» і складзеная ў форме адказаў на пытанні, якія скіроўвалі пісьменніку слухачы радыё.

Абмяркоўваецца шырокае кола гістарычных, палітычных і асабістых тэмаў — ад удзелу мурынаў у паўстанні Каліноўскага і допінг-кантролю на рыцарскіх турнірах да першых эратычных перажыванняў, творчых метадаў і прагнозаў на канец свету.

Кніга, падзеленая пакараткевічаўску на раздзелы «Было», «Ёсць» і «Будзе», насычаная фірмовым гумарам. Лёгка прачытаная, яна прынясе прыемнасць і дасць масу новых ведаў зацікаўленаму беларушчынай чытачу.

**СМ**




Уладзімір Арлоў. Пакуль ляціць страла (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе). — Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012.

## ФУТБОЛ

### Суперкласіка

У суботу 21 красавіка адбудуцца матчы 6 тура чэмпіяната Беларусі па футболе. Цэнтральным, вядома, будзе супрацьстаянне ў Мінску паміж «Дынама» і БАТЭ. Гульня пачнецца а 17:00. Трансляцыя на тэлеканале «Беларусь-2».
Астатанія матчы:
«Шахцёр» (Салігорск) — «Брэст»;
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Белшына» (Бабруйск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Мінск»;
«Гомель» — «Славія» (Мазыр).

## ІМПРЭЗЫ

### «Восень-зіма 2012/2013»

**18 красавіка ў гатэлі Crowne Plaza (Кірава, 13, зала King, 6 паверх) а 19:00** адбудзецца паказ аўтарскіх калекцый дызайнераў Беларускага Цэнтра Моды: Эльвіры Жвіковай, Марыі Ніцэвіч, Вадзіма Карабкова і Вікторыі Колб.

### «З гэтага свету»

**18 красавіка а 17-й гадзіне ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры (Багдановіча, 13)** адбудзецца прэзентацыя кнігі паэзіі Леаніда Галубовіча «З гэтага свету».

### «Дрэва энталіпт» Анкі Упалы ў галерэі «Ў»




Прэзентацыя кнігі Анкі Упалы «Дрэва энталіпт» пачнецца **20 красавіка а 19.00 у галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а).**

## КАНЦЭРТЫ

### IQ48

**19 красавіка 19-й у Re:Public(Прытыцкага, 62)** — B:N, IQ48.

### Smokie

Калектыў, які заваяваў сваімі хітамі ўвесь свет, — гурт Smokie **19 красавіка выступіць на сцэне Канцэртнай залы «Мінск».** Білеты — 150—550 тысяч рублёў.

### Нагуаль

**19 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — гурт «НагУаль».

### Афанасьева

Заслужаная артыстка Беларусі Іна Афанасьева **21 красавіка выступіць на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі.** Пачатак а 19.00.

## ВЫСТАВЫ

### Чырвоны каларыт

**Да 26 красавіка ў Палацы мастацтва (Казлова, 3)** працуе выстава жывапісу «Чырвоны каларыт». Чырвоны — колер жыцця, крыві, сонца, полымя, кахання, прыгажосці, актыўнасці… Ён жа — колер агрэсіі, смерці, жарсці, распусты, небяспечнасці, агню. Прыгнятае. Што выбраць — кожны вырашае сам…

### Вясна душы

**Да 30 красавіка ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава традыцыйнага кітайскага жывапісу «гахуа». У экспазіцыі прадстаўленыя карціны-світкі Сюй Бэйхуна, Мі Вэнь Цзэ, Янь Фэй Хуна, Сяо Юя.

### Трапічныя мятлушкі

**Да 22 красавіка ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава жывых трапічных мятлушак. На выставе можна ўбачыць мятлушак з Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Амерыкі.

## ТЭАТРЫ

### 18 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 19 красавіка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»







### 20 красавіка

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 21 красавіка

**Лялек** — «Жудасны пан Ау»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 22 красавіка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 23 красавіка

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 25 красавіка

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 26 красавіка

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

### 27 красавіка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 28 красавіка

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 29 красавіка

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага леса»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Карміна-бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

## КІНО

### Шпіён у Мінску

Шпіён (Шпион)
Расія, 2012, каляровы, 99 хв.
**Рэжысёр:** Аляксей Андрыянаў
**Ролі выконваюць:** Даніла Казлоўскі, Фёдар Бандарчук, Ганна Чыпоўская, Уладзімір Епіфанцаў, Вікторыя Талстаганава
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Чэрвень 1941 года. Патаемны агент абвэра Васэр мае адмысловую задачу ад фюрэра. Спартовец Дорын пад кіраўніцтвам маёра Акцябрскага мусіць знайсці і спыніць няўлоўнага шкодніка. Але ворагі савецкай імперыі вельмі хітрыя.

«Шпіён», што пастаўлены паводле кнігі Барыса Акуніна, — сталінскі комікс. У гэным коміксе — правільны, як завадная лялька, маладзён, мудры Берыя і катаванні па апошняй навуковай модзе. Гэта стыль позняга Міхалкова, кампанія якога фільм выпусціла.

Галоўная прыдумка карціны — гаджэты з дэкарацыямі. Неба рассякаюць дырыжаблі, у пузатым тэлевізары крывіцца Гітлер, Сталін стаіць на даху хмарачоснага Палаца Саветаў (не збудаванага ў рэальнасці). Сядзіба КДБ у Мінску і бераг Свіслачы становяцца часткай ідэальнай Масквы, перанасычанай імперскім ампірам. Стэрыльнага і чыстага Мінска ў карціне шмат. І гэта галоўнае, чым можа фільм ганарыцца.

**Андрэй Расінскі**



# Беларускія санаторыі па цане Грэцыі і Эміратаў

**500 даляраў — мінімум**, каб атрымаць адпачынак?

Беларусаў запрашаюць у Шры-Ланку і В'етнам, а вось пуцёўкі ў айчынныя санаторыі ўжо закончыліся. У Мінску прайшла выстава «Адпачынак-2012».

### Папулярная экзотыка

Пасля крызіснага 2011, калі многія беларусы былі вымушаныя адмовіцца ад замежнага адпачынку, турыстычны рынак вяртаецца на ранейшыя абароты. Аператары спадзяюцца, што нашы суайчыннікі сабралі дастаткова грошай, каб дазволіць сабе адпачынак класа люкс. Таму сярод новых кірункаў — спрэс экзатычныя краіны.

Напрыклад, беларускія турфірмы будуць вазіць людзей у В'етнам і Камбоджу (каля $2000 на 14 дзён). Набіраюць папулярнасць і іншыя азіяцкія краіны — Шры-Ланка ($1800 на 11 дзён), Кітай (ад $1300 за тыдзень адпачынку). У кожным з прыведзеных варыянтаў прадугледжваецца вылет з Мінска.

**Малдаўскі тур**

Турфірмы Беларусі адкрываюць новы тур «выходнага дня» — з 27 красавіка экскурсійныя аўтобусы будуць вазіць турыстаў у Кішынёў. Экскурсанты наведаюць манастыры, сярэднявечную крэпасць, а таксама вінныя скляпы. Працягласць прыродных вінасховішчаў тут дасягае 200 кіламетраў. Завяршаецца тур абедам з хатнім віном і фальклорнай праграмай. Кошт — 140 еўра.

### Грэцыя і ААЭ становяцца бюджэтным варыянтам

Што да традыцыйных кірункаў адпачынку — Украіна, Турцыя, Егіпет, — то канкурэнцыю ім пачынаюць складаць Грэцыя і Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.



Каб паглядзець на старажытную кхмерскую сталіцу Ангкору (Камбоджа), трэба выкласці 2000 «зялёных».



Адпачынак у «Радоне» (Дзятлаўскі раён) распісаны да верасня.

Тыдзень адпачынку ў Грэцыі можна замовіць за $700—800. Эміраты каштуюць крыху даражэй — каля $1000 (пяцізоркавы гатэль). Калі ж пагадзіцца на трохзоркавы гатэль і муніцыпальны пляж, цану адпачынку можна зменшыць у паўтара-два разы. Прыблізна столькі ж плацяць і турысты, якія ляцяць па праверанных кірунках у Турцыю ці Егіпет.

### Недаступныя санаторыі

Тым часам адпачынак у Беларусі, па змоўчанні не такі дарагі, становіцца для беларусаў усё больш недаступным. Санаторыі «акупуюць» расейцы, і знайсці ў красавіку пуцёўку ўжо нерэальна. Шанец атрымалі тыя, хто пачаў клапаціцца пра летні адпачынак яшчэ ў снежні...

Зрэшты, і цэны кусаюцца. Напрыклад, у чэрвені за 12 дзён (стандартны курс лячэння) у папулярным санаторыі «Радон» на Дзятлаўшчыне давядзецца заплаціць... $500! Гэта адзін з самых папулярных санаторыяў, які прапануе гразелячэнне. Найбліжэйшая свабодная дата — 23 верасня.

Санаторый «Юнацтва» на беразе Мінскага мора за тыя ж 12 дзён просіць $550. Прычым грамадзяне іншых краін плацяць яшчэ больш. Найбліжэйшая дата заезду — 28 жніўня.

Дарэчы, падаражалі і летнікі. Калі летась сярэдні кошт пуцёўкі ў лагер з кругласутачным знаходжаннем складаў прыкладна 800 тыс. рублёў, то сёлета ён дасягне арыенціровачна 1,5 мільёна рублёў. Пры гэтым дзяржава і так датуе каля 40% ад кошту.

**Ягор Марціновіч**

## З якіх рэзерваў узяць €200 на адпачынак?

Чым **большая сям'я** — тым больш запас.

У сувязі з леташняй дэвальвацыяй цэны на адпачынак за мяжой у беларускіх рублях «узляцелі» ў некалькі разоў. І цяпер не кожны беларус гатовы ехаць летам на мора. Журналіст «НН» знайшоў рэзервы для адпачынку, пра якія мы часта не задумваемся.

З сям'ёй вырашылі сёлета з'ездзіць на мора ў Чарнагорыю — у Будву. Свет не блізкі. Адкладаць грошы пачалі з мінулага года.

**Рэзерв 1.** Абралі аўтобусны тур: хай дарога і стамляе, але дае магчымасць наведаць з экскурсіямі Вену, Будапешт, а праездам яшчэ пабываць у Польшчы, Чэхіі, Сербіі, Славакіі. Выезд 11 верасня, вяртанне — 26 верасня. Адпачынак на моры складае 10 дзён.

Цана аўтобуснага тура на аднаго чалавека — 340 еўра. Сюды ўключаны праезд, транзітныя начоўкі са сняданкамі, агляднныя экскурсіі, пражыванне на курорце (трохзоркавыя апартаменты), куротны збор. Дадаткова аплочваецца транзітная віза (60 еўра), медыцынская страхоўка (6 еўра), турпаслуга (150 тысяч). У выніку на дваіх атрымліваецца 812 еўра і 300 тысяч рублёў.

Але турфірмы прапануюць зніжку ў 10 працэнтаў пры замове тура да 30 красавіка. Гэта атрымліваецца, што адпачынак нам абыдзецца ў 744 еўра і 300 тысяч (эканомія — 68 еўра).

Часта праз тое, што пра адпачынак пачынаем думаць за два месяцы да яго, страчваем на зніжках.

**Рэзерв 2.** Ёсць яшчэ адзін рэзерв, пра які мы рэдка згадваем. Наш адпачынак доўжыцца паўмесяца. Кватэра ўвесь гэты час будзе пуставаць. А значыцца, ні ваду, ні электрычнасць спажываць не будзем (можна нават адключыць халадзільнік). Мы падлічылі, колькі наша сям'я з двух чалавек выдатkоўвае грошай на камунальныя паслугі, ежу. Атрымалася, што за 16 дзён мы спажылі халоднай вады — 2 м³, гарачай — 3 м³, электрычнасці — 70 Вт.

Па тарыфах нашай кватэры заплацілі за электрычнасць (халадзільнік, пральная машына, мікрахвалёўка, ноўтбук, тэлевізар) 16670 рублёў, за ваду — 7200, за каналізацыю — 5520, за падагрэў вады — 10990. Агулам 40380 рублёў, альбо 4 еўра.

На ежу мы выдаткавалі 700 тысяч рублёў, на транспарт (праязныя на метро, электрычку, маршрутку) — 195000, на мабільную сувязь — 60000, іншае — 275 тысяч. Агулам 1,23 мільёна рублёў альбо 114 еўра.

У выніку 186 еўра — сума з рэзервовых. Грошы не маленькія, хоць іх, зразумела, і не хопіць на ўсе выдаткі ў адпачынку. Тым не менш, гэта дадае аптымізму пры выбары краіны адпачынку на захад ад бюджэтнай Украіны.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

**«Дзень адкрытых дзвярэй» на аграсядзібах**

Наведаць любую з іх 20 мая можна будзе бясплатна. «Сёлета працуюць 1823 сядзібы, гэта на 500 больш, чым у 2010», — расказаў намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Чaслаў Шульга.

**На Нарачы пабудуюць SPA-цэнтр**

SPA-цэнтр стане часткай спальнага корпуса на 136 месцаў. Комплекс будзе ўключаць кінаканцэртную залу і рэстаран, побач з ім будуць знаходзіцца 10 драўляных бунгала (нацiск, дарэчы, на першы склад). Акрамя таго, пачалося будаўніцтва вальера для дзікіх жывёл за $1,2 мільёна.

**Facebook купіць фотасэрвіс за мільярд даляраў**

Сацыяльная сетка Facebook набудзе папулярны фотасэрвіс Instagram. Ён быў запушчаны ў кастрычніку 2010. Колькасць яго карыстальнікаў ужо дасягнула 30 мільёнаў чалавек. Instagram дазваляе накладаць на фотаздымак розныя эфекты і прымяняць фільтры. Пасля здымак можна размясціць у любой сацыяльнай сетцы.

**Змяні прозвішча — атрымай дармавы інтэрнэт**

Адзін з маскоўскіх інтэрнэт-правайдараў аб'явіў незвычайную акцыю. Усім, хто памяняе сваё прозвішча на Чумачэчы ці Чумачэчая, кампанія забяспечыць пажыццёвы інтэрнэт на хуткасці 30 Мбіт/с. Штомесячная эканомія складзе каля $20. Двое ахвотнікаў ужо знайшліся.

**Беларусь падала заяўку на правядзенне фіналу Лігі Еўропы**

УЕФА прыняў заяўку Беларусі на правядзенне фінальнага матча футбольнай Лігі Еўропы ў 2015 ці 2016 годзе. У выпадку перамогі ў конкурсе гульня пройдзе на полі абноўленага мінскага стадыёна «Дынама». Праўда, яго рэканструкцыя яшчэ не пачыналася.

**ЯМ**



**Ружана, Радаслава і Франак (злева направа) Вячоркі рана страцілі маму. Адпяванне Арыны Вячоркі прайшло 12 красавіка ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы.**



**У 2012 годзе ў Мінску адкрыюць вучэбна-трэніровачны цэнтр фрыстайла. Аб’ект унікальны — гэта першае ў свеце закрытае збудаванне падобнага тыпу, дзе можна будзе праводзіць трэніроўкі і спаборніцтвы незалежна ад кліматычных умоў. Унікальны комплекс размесціцца паміж Батанічным садам і вуліцай Сурганава каля Палаца воднага спорту. Праект планавалася скончыць у 2010, але, як яно бывае — крызіс, вечны крызіс, — адкрыццё адклалі на 2 гады.**

**24 красавіка — Радаўніца. Да яе беларусы парадкуюць магілы, а ў памінальны дзень наведваюць родавыя могілкі.**




## Анекдоты

* * *

Цяпер у варанай каўбасе столькі мяса, што можна не баяцца есці яе ў пост.

* * *

Учора з жонкай клеілі шпалеры. Ледзь не развяліся.

* * *

Землятрус — гэта вібразванок ад матухныпрыроды.

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё: Ці праўда, што ўзровень жыцця ў Беларусі вырас?

Адказ: Праўда, і цяпер большая частка насельніцтва да яго не дацягвае.

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё ад патолагаанатама: Ці праўда, што зарплата ў Беларусі будзе расці толькі з ростам прадукцыйнасці працы?

* * *

Толькі наш чалавек, калі яму дазволіць рабіць усё што хоча, не будзе рабіць наогул нічога.

* * *

У нас у кавярні — тыдзень грэцкай кухні. Усё вельмі смачна, але цэны такія, як быццам яны хочуць дапамагчы Грэцыі выплаціць яе пазыку.

## «НН» сто гадоў таму

**Вілейка.** На Куранецкай вуліцы адкрылася надта патрэбная для нашых сялян-беларусаў лякарня для скаціны. Гэткія лякарні павінны былі б быць у кожным павятовым горадзе, бо ў нас штогоду шмат скоту прападае ад пошасных хваробаў, асабліва ад свінскае рожы.

**«НН». №14. 1912.**

**Калонка Алеся Бяляцкага.** Ніколі не быў у Касцюковічах. Вечна блытаў іх з Клімавічамі, бо і там таксама не быў. Урэшце запомніў, як адрозніваць: у Клімавічах вялікая вінакурня, а ў Касцюковічах — цэментны завод. І там, і там ёсць людзі, якія, не зважаючы на пераслед уладаў, робяць грамадскую работу. Усе яны былі звольненыя з дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, перабіваюцца хто як можа, але зацяліся і не паддаюцца. Гэткі ж і мой касцюковіцкі знаёмы, да якога я ехаў літаральна на гадзіну — перадаць «Права на волю», абгаварыць рэгістрацыю аддзялення праваабарончага цэнтра і да ночы паспець у Магілёў.

Каля закінутых будынкаў свінакомплекса паказваецца міліцэйскі пост. Нас спыняюць. Пасля перамоваў з начальнікам на прадмет «газетак супраць прэзідэнта» два міліцэйскія старшыны атрымліваюць каманду трымаць нас, пакуль не прыедзе галоўны «гаёвы» раёна. Я саромлю міліцыянтаў, а яны шматзначна ківаюць угару.

**«НН». №15. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 17.04.2012.
Замова № 1683.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12